


Дзяды ў Беластоку→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Вершы Юркі Буйнюка→8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 04 (3011) Год LIX | Беласток, 26 студзеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**«Небо и земля, небо и земля ныне торжествуют. Ангелы, люди, ангелы, люди весело празднуют» — шырокавядомая калядная песня ў выкананні ўсіх удзельнікаў агляду «Гвязда і калядка» пачала 19 студзеня (свята Іардана) сёлетні, пятнаццаты выпуск мерапрыемства Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У беластоцкі Гарнізонны клуб прыцягнула яно натоўпы гледачоў, якія захапляліся маладымі і старэйшымі выканаўцамі з трыццаці пяці калектываў з усёй Беласточчыны.**



# Пятнаццатая «Гвязда і калядка»

Традыцыйна было радасна і святочна. Калядкі перапляталіся часам з фрагментамі калядных абрадаў і звычаяў.

— Падрыхтавалі мы «У Віфлееме навіна», «Дзева нарадзіла сына» і «У стране іудзейскай». Мы выступаем на аглядзе кожны год. Кожны раз мы спрабуем спяваць іншыя калядкі. Такія агляды патрэбныя, таму што дадаюць святочнаму часу красы, калі трэба славіць Бога. Ідэя заключаецца ў тым, каб не проста хадзіць па хатах з калядкамі, але таксама даць магчымасць сустрэцца гуртам калядоўшчыкаў. Па Райску дасюль ходзяць каляднікі, нават спяваюць песні, якіх мы не ведаем, падыгрываючы нават на гітары, — расказвала Антаніна Дамброўская са «Згодных макаў» з Райска.

Аліна Мінкевіч з хору «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага:

— Калі б не было такіх аглядаў, дык нашы дзеці і ўнукі не ведалі б нашых, беларускіх традыцый. Таксама дзякуючы калядным аглядам наша культура і мова не губляюцца. Наш калектыў ужо не ходзіць па хатах калядаваць, толькі выступае на такіх паказах. Неяк так складваецца. Дзеці і ўнукі прыязджаюць на святы і няма як, шмат абавязкаў у сябе дома, але па вёсках і ў самім Бельску каляднікі ходзяць. У хаце як няма калядак, няма свята. Яны прыносяць у хату спакой і радасць.

Жанчыны з калектыву «Падляшанкі» з Нарваўскай гміны з'явіліся ў Гарнізонным клубе апранутыя ў цёплыя кажухі і хусты, быццам бы проста з калядавання ў вёсцы. Сяброўка калектыву Вольга Масайла:

— Моладзь у нас зараз спявае больш сучасныя калядкі. А мы падтрымліваем старую беларускую традыцыю, каб не прапала.

Былі таксама маладыя калядоўшчыкі, у тым ліку вучні з Непублічнай пачатковай школы святых Кірылы і Мяфодзія Куба і Патрык.

— Гэта файна, мы можам сустрэцца і разам пакалядаваць. Спяваем у асноўным старыя калядкі, усім вядомыя. Яны ў апрацоўцы спадарыні Алы Каменскай. Не ходзім па хатах з калядкамі, але падтрымліваем традыцыі.

Галіна Наумюк, маці аднаго з дзяцей у школьным ансамблі свсв. Кірылы і Мяфодзія:

— Людзі маюць тут магчымасць паглядзець і паслухаць, як наша культура расце. Мы, бацькі, бачым, як нашы дзеці развіваюцца, такія як і маё, якое сёння выступае. З іншага боку, гэта забаўка, прытым працягванне нашых традыцый, звычаяў, абрадаў. Мае дзеці не ходзяць па Беластоку з гвяздай, таму што на святы мы з'язджаем да маіх бацькоў у вёску і гэтыя тры святочныя дні мы праводзім там. Калядуюць затое ў вёсцы. Я ведаю, што група праваслаўных гарцэраў у гэтым годзе і раней калядавала па дамах у Беластоку.

Ала Каменская, апякунка трох груп рознага ўзросту, якія прадстаўляліся ў аглядзе:

— У такой зале як гэтая калядкі спяваем у асноўным пад фанаграму, але ў царкве, вядома, не. Мы цешымся, што можам прадставіць калядкі, і людзі на такім аглядзе могуць паслухаць старых і традыцыйных калядак і новых іх распрацовак, а таксама і новых з інструментамі або пад нейкае суправаджэнне. Яшчэ чатыры гады таму мы пайшлі ад хаты да хаты з калядкамі, у асноўным ехалі ў вёску, але не цяпер, таму што ўжо менш хочацца. Мы стараліся выбіраць мясцовасць, дзе людзям цяжка выбрацца ў царкву. Асабліва спадабалася, як мы прыходзілі з акардэонам, таму што тады калядкі былі такія радасныя. Нават можна зарабіць шмат грошыкаў, а затым нават паехаць пакатацца на санках за гэта.



Слухаючы з вялікай цікавасцю калядкі бацюшка Андрэй Місяюк з прыхода вялікамучаніка Панцеляймона з беластоцкіх Засцянак:

— Калядкі займаюць асаблівае месца ў традыцыі Праваслаўнай царквы. Ствараліся яны на памежжы паміж Усходам і Захадам, не на далёкім Захадзе і на далёкім Усходзе, а якраз тут, дзе Усход і Захад сустракаюцца і ўзбагачаюцца. Менавіта тут узнікла большасць калядак, якія і па сённяшні дзень вядомыя ў польскай, беларускай або ўкраінскай традыцыях. Гэта завяршэнне таго, што нясе ў сабе аўтэнтычная дагматычная традыцыя. Калядкі гэта спроба інтэрпрэтацыі аднаго і таго ж зместу, мудрасці, веры, якія перадае Царква, але па-простаму. У простай форме расказвае пра невымоўны цуд нараджэння Хрыста і важнасць гэтай падзеі для ўсяго нашага чалавецтва. Гэта ў просты спосаб змяшчаецца ў калядках, і таму ў іх не пазбегнуты некаторыя недакладнасці, і нават памылкі, але яны не такія важныя, каб сказіць вучэнне Царквы. Таму спяваюцца ў цэрквах ад падрыхтоўчага перыяду да святаў.

Прысутны на аглядзе дырэктар Цэнтра культуры Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко ў размове з «Нівай» не хаваў свайго захаплення:

— Гэты агляд, які перыядычна праводзіцца на Беласточчыне, уражвае сваім маштабам. Такога тыпу падзеі, арганізаванай з такім размахам, я не бачыў у Беларусі, хаця ў Беларусі таксама калядуюць па вёсках і гарадах. Гэта вельмі ўсходнеславянская традыцыя, якая пераходзіць з пакалення ў пакаленне. Гэты фальклор з'яўляецца найлепшай рысай беларускай культуры і традыцыі.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# На парозе вайны

Гэтыя радкі пішуцца тады, калі на Украіне ўсё больш разгараюцца палітычныя жарсці і сітуацыя становіцца ўсё больш напружанай. Краіна гэтая стаіць на парозе сапраўднай грамадзянскай вайны альбо аднабаковай бойні, калі ўлада брутальнай сілай душыць народны пратэст і падаўляе ўсялякі супраціў. Да гэтага застаўся толькі адзін крок і невядома, што можа выступіць дэтанатарам, а што фактарам стрымання крывавай агрэсіі.

Тое, што адбываецца ў нашай суседняй з поўдня краіне зараз, можна было прадказваць яшчэ чатыры гады таму, калі ў 2010 г. Украіна абірала свайго новага прэзідэнта. У тым годзе гэтая краіна зрабіла страшную фатальную памылку — новым прэзідэнтам яшчэ ў дэмакратычных выбарах быў абраны Віктар Януковіч, маральнае аблічча і сутнасць якога былі відавочныя. У той выбарчай кампаніі мне давялося дастатковы час быць на Украіне, у Ровенскай вобласці, і назіраць за абодвума турамі выбарчага працэсу. У параўнанні з нашай Беларуссю мяне тады прыемна ўразіла нацыянальная свядомасць жыхароў Украіны, а з іншага боку непрыемна здзівіла, а месцамі нават шакавала, палітычная няспеласць мясцовага люду. Вылілася апошняя ў тое, што выбралі лідарам дзяржавы чалавека, паводзіны і палітыка якога былі відавочныя і зараз прывялі да такога крызісу і грамадзянскага расколу.

Украіна расплачваецца зараз за свой страшны грэх. За тое, што яна не скарысталася заваёвамі мірнай, аксамітнай „аранжавай" рэвалюцыі. Гэта быў унікальны шанс пазбавіцца савецкага мінулага, пакончыць з аўтарытарнай уладай, з заганнымі метастазамі карупцці і хабарніцтва. Цярпення хапіла толькі на адзін прэзідэнцкі тэрмін. Я разумею, што людзям маглі не падабацца Віктар Юшчанка, ці Юлія Цімашэнка, дапускаю, што гэтыя кіраўнікі нарабілі шмат памылковага і нават кепскага, але я не мог ніяк зразумець і не разумею дагэтуль, як людзі маглі галасаваць за такую асобу як Януковіч! Ну не хацелі яны больш Юшчанку, ці Цімашэнку, але ж была і процьма іншых кандыдатаў — Арсень Яцанюк, Алег Цягнібок, куча нейкіх левых сацыялістаў, цэнтрыстаў... Словам — выбар, каштоўнасць якога ўкраінцы ацаніць не змаглі. Нават у той жа Ровенскай вобласці, дзе мне давялося назіраць за галасаваннем у першым і другім турах, нягледзячы на вялікую перавагу Цімашэнкі, значная частка электарату аддала свае галасы за таго, хто ўзяў курс „назад у СССР". У гэтым і выявілася палітычная няспеласць украінскага народа. Я ўпэўнены, што беларускае грамадства, дапусціўшы свой ракавы агульны выбар у 1994 г., такога ўжо б не зрабіла. Толькі ў беларусаў даўно ўжо няма права на такі выбар. Іх галасоў ніхто не лічыць. Гісторыя не даруе народам фатальнага выбару зла. Непазбежна наступае пара жорсткай расплаты. Зараз чарга дайшла да Украіны.

Калі аналізаваць і прагназаваць сітуацыю, то цяжка прадбачыць пазітыўны сцэнар развіцця падзей. Найверагоднай кліка Януковіча ўцягне раздробленую апазіцыю ў доўгі працэс перамоваў, якія наўрад ці дадуць шанс і дывідэнды дэмакратычнай кааліцыі. Датэрміновыя прэзідэнцкія выбары правесці цяпер не ўдасца. Калі ж у грамадстве знойдуцца радыкальныя сілы супраціву, народнае паўстанне будзе жорстка задушана, рэпрэсіўныя дзеянні паскорацца, можа быць шмат ахвяр. Але найбольш верагодная паўзучая рэакцыя. За гады свайго кіравання Януковіч стварыў механізмы рэпрэсій і падаўлення іншадумства, для гэтага ён паслядоўна ўмацоўваў сілавыя структуры і падводзіў „пад сябе" заканадаўчую сістэму. Яго тактыка апошнія два месяцы была простай — браць Майдан на зморанасць, рыхтаваць падаўленне і афармляць гэта ў рамках створанай уладай нібыта законнасці. За плячыма ў яго таксама і паслядоўны ў сваёй імперскай палітыцы „рускі брат". А вось Еўрасаюз прадказальна ўмешвацца ў сітуацыю не будзе, абмежаваўшыся роляй пасіўнага назіральніка.

Цяжкі час прыйшоў для Украіны...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Драматычнае напружанне

Часы, калі ў любімай закусачнай сустракаліся беластоцкія мастакі, пісьменнікі, журналісты і часта амбіцыйныя аспіранты ды іх вучоныя мэтры, прайшлі назаўжды. Няма ўжо такіх месц, няма тых часоў. І няма таксама чаго над імі хныкаць. Было, прайшло... Тым не менш са слязой у вачах я ўспамінаю тыя вакхічныя дыскусіі і вогненныя спрэчкі, якія гасіла толькі шэрая раніца. Калі сыпаліся як з рукава анекдотчыкі, меткія рэплікі, а духа прафесара Туткі, які меў сваё пастаяннае месца за агульным столікам, не трэба было нікому прадстаўляць як літаратурнай постаці. Дарэчы, яго стваральнік Ежы Шаняўскі бліскуча ахапіў праз яго сэнс чалавечых размоў. У кожным з нас жыве прафесар Тутка, па меншай меры імкненне да гэтага, каб так як ён выяўляць просты сэнс схаваны паміж заблытанымі словамі, невуцтва ў ведах, мудрасць у рэчах банальных, банальнасць у высокіх дэкларацыях. І хоць не кожны з нас можа цярпліва супастаўляць асабістыя разважанні вопыту іншага, спазнаваць свет з розных пунктаў гледжання чалавека, зрабіць адпаведныя высновы і ўмела імі аргументаваць, бо, вядома, кожны хацеў бы мудра і прыгожа гаварыць. Іншая справа, што не ўсім гэта ўдаецца...

Аднойчы — тут спасылаюся на загаловак фельетона — успыхнула за агульным сталом спрэчка за тое, што з'яўляецца драматычным напружаннем. Хтосьці з удзельнікаў размовы заявіў, што гэта мастацтва ўтрымацъ у засяроджанасці слухача. Нехта спасылаўся на некалькі вучоных вызначэнняў, хтосьці спасылаўся на мастацкую паэтыку Марка Шагала, сказаўшы, што ён выклікае ў ім драматычнае напружанне. Таму што на гэтым прызнанні кончыў, сабраная кампанія падвяла яго заяву іранічнымі ўхмылкамі. У канцы ўзяў голас Паэт:

— Пры праслухоўванні вашай дыскусіі аб тым, што з'яўляецца драматычным напружаннем, прыгадалася мне летняя навальніца... Я сядзеў за гэтым столікам, не спадзеючыся, што хто-небудзь з вас адважыцца выйсці ў гэты час з дому. З усходу ішла апакаліптычная хмара. Як гідраўлічны прэс, уся ў клубах вячэрніх выпарэнняў, з аддаленымі стогнамі насоўваючайся навальніцы, павольна напльвала над горад, ужо прыгнятаючы яго акраіны, тузаючы бляшаныя дахі прыгародніх хат і кроны дрэў. Недзе там у яе алавяным корпусе бурныя поршні пампавалі каскады ліўню. Яе сервапрыводы кружылі, раскідваючыся іскрамі. Фуркаталі прываднія рамяні дрэннага надвор'я, скрыгаталі нябачныя рэжымы грому, дрыгацелі спружыны маланак. Гідраўлічны малох нястомна сунуўся ўперад. Уцякалі ад яго аўтамашыны і аўтобусы. Зачыненыя ў іх людзі з бяздумным спакоем акварыумных рыбак адчынялі і зачынялі раты, яшчэ больш сціскаючы душную атмасферу пусцеючых вуліц... — і тут Паэт задумаўся над чымсьці, глыбока схіліўшы галаву; пасля доўгага маўчання нехта спытаўся, што з тою бурай: — Нічога, — Паэт пацісную плячыма. — Прайшла бокам.

Драматычнае напружанне з'яўляецца кампанентам цікавага аповеду. Не абыдзецца без яго добра пабудаваная сюжэтная лінія. Чым больш у ёй паваротаў дзеяння, напружання, тым больш яна прыцягне слухачоў. Пры ўмове, што, у рэшце рэшт, апавядальнік здольны засяродзіць іх увагу на сабе. Гэтага цяжкага мастацтва спакушэння дабілася няшмат расказчыкаў. Як заўсёды найбольш спраўнымі сярод іх з'яўляюцца палітыкі. Адзін з лепшых, несумненна — Аляксандр Лукашэнка.

Той самы Аляксандр Лукашэнка, які на працягу амаль дваццаці гадоў разбурае тоеснасць беларусаў, пазбаўляючы іх нацыянальнай мовы, сімвалаў пакаленнеай пераемнасці: герба, сцяга і гімна. Той самы Аляксандр Лукашэнка, па інспірацыі якога скажаецца гісторыя Беларусі, адымаецца годнасць яе грамадзян, пазбаўляючы іх нацыянальнага багацця, руйнуючы сацыяльныя сувязі, зневаляючы свабоднае слова, разбэшчваючы дзяржаўныя ўстановы, маральна і фізічна гноячы чыноўніцкі апарат. Той самы Аляксандр Лукашэнка, які нядаўна зрабіў заяву, што «надышоў час, каб вызначыць, што стане ідэяй аб'ядноўваючай беларускіх грамадзян, у якую ўсе паверацъ — ад навукоўца да мужыка». Паверацъ яны, паверацъ, ды калі блізкая бура зноў не пойдзе бокам. У любым выпадку, драматычнае напружанне, якое Лукашэнка выклікаў сваёй прамовай, прыгожа ўпісалася ў яго палітычны нарatyў. Я зайздрошчу яму таленту.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Антыдыскрымінацыйная навука

«Будучыня правоў чалавека ў нашых руках. Мы ўсе павінны прадухіляць парушэнні гэтых правоў. Вялікая адказнасць для павышэння дасведчанасці аб правах чалавека і іх абароны ляжыць за дырэктарамі школ, навучальных устаноў, з'яўляецца задачай кожнага настаўніка-выхавацеля дзяцей і моладзі. Антыдыскрымінацыйная адукацыя павінна стаць важным і свядомым дзеяннем, павышаючым веды, умеласці і ўплываючым на стаўленні, накіраваныя на прадухіленне дыскрымінацыі і гвалту, падтрымліваючым роўнасць і разнастайнасць» — гэта фрагмент ліста двухгадовай даўнасці былой міністр адукацыі куратарам асветы. Яго змест прыгадваўся на нядаўна завершаным выданні Праграмы грамадзянскай адукацыі па барацьбе з дыскрымінацыяй «Разнастайнасць — перадай далей». Яна была працягам і пашырэннем падобных праграм, якія рэалізаваліся ў папярэднія гады Асацыяцыяй 9/12. Яе мэтай было павышэнне актыўнасці моладзі ў Беластоку ў барацьбе з дыскрымінацыяй і пабудова сучаснага грамадства, заснаванага на прынцыпе павагі да разнастайнасці.

Як праінфармаваў каардынатар праекта Гжэгаж Стэфаняк, за цэлы апошні год яе рэалізацыяй займалася беластоцкая Асацыяцыя дзеля культуры і дыялогу 9/12 у супрацоўніцтве з Інстытутам сацыялогіі Універсітэта ў Беластоку. Пры фінансавай падтрымцы Швейцарыі адбылося 95 семінараў па барацьбе з дыскрымінацыяй, агульнапольскі сімпозіум «Разнастайнасць — правяраю!», прысвечаны рэалізацыі антыдыскрымінацыйнай адукацыі ў сістэме фармальнай адукацыі, а таксама курс трэнерскай умеласці «Адукацыя ў барацьбе з дыскрымінацыяй» для тых, хто зацікаўлены ў атрыманні ведаў і базавых навыкаў прыдатных для самастойнага вядзення адукацыйных заняткаў, змяшчаючых элементы антыдыскрымінацыйнай адукацыі. Падрыхтаваны таксама дзве публікацыі.

«Антыдыскрымінацыйныя семінары рэалізаваныя ў рамках праекта былі ведзены ў адпаведнасці са стандартамі, распрацаванымі ў ходзе двух папярэдніх выданняў», — успамінае Гжэгаж Стэфаняк. Дадае: «Гэтыя семінары звычайна праходзіць за межамі школы — у спецыяльна падрыхтаванай для гэтага зале. Людзі, якія клапоцяцца пра клас ад імя школы ў час семінара маглі застацца з групай і ўдзельнічаць у занятках ці глядзець іх. Ключавымі элементамі заняткаў традыцыйна былі: практыкаванне, мэта якога заключаецца ў забеспячэнні асобам удзелу ў штучна створанай сітуацыі дзеля суперажывання сітуацыі асоб, якія належаць да меншасцей, і паказ фільма «Блакітнавокія» або фільма вытворчасці беластоцкай галерэі Арсенал пад назвай «Сімвалы». Абодва фільмы датычаць тэмы дыскрымінацыі па прыкмеце расы, колеру скуры, рэлігіі, сексуальнай арыентацыі, агульнага стану, полу, узросту і г.д.».

У 2013 годзе да ўдзелу ў семінары свае класы заявілі 25 сярэдніх школ з Беластока і Беластоцкага павета, у тым ліку 14 гімназій, 10 сярэдніх школ (ліцэяў, тэхнікумаў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў), а таксама адна школа з гімназічнымі і звышгімназічнымі класамі. У занятках прынялі ўдзел каля дзвюх тысяч вучняў і вучаніц. Навінкай уведзенай у 2013 годзе быў пачатак падрыхтоўкі большай колькасці асоб, якія могуць самастойна праводзіць семінары па барацьбе з дыскрымінацыяй і выкарыстоўваць кампаненты адукацыі барацьбы з дыскрымінацыяй у паўсядзённай працы з людзьмі. У рамках курсаў «Антыдыскрымінацыйная адукацыя» 17 чалавек зрэалізавалі ў агульнай складанасці 28 гадзін семінараў перадачы ведаў і асноўных навыкаў коўчынга.

Акрамя таго, у рамках праекта «Разнастайнасць — перадаць далей! 2013» у Інстытуце сацыялогіі Універсітэта ў Беластоку быў праведзены сімпозіум на тэму «Разнастайнасць — правяраю! Рэалізацыя антыдыскрымінацыйнай грамадзянскай адукацыі ў сістэме фармальнай адукацыі». Завяршыла яго дэбата пад эгідай падляшскага ваяводы аб антыдыскрымінацыйнай адукацыі на Падляшшы. Яе мэта заключалася ў сумеснай распрацоўцы рэкамендацый па ажыццяўленні антыдыскрымінацыйнай адукацыі ў сістэме фармальнай адукацыі ў Беластоку і ў Падляшскім ваяводстве. Вынікам праекта, у прыватнасці, стала выдача спецыяльнага выпуску часопіса **«Pogranicze. Studia społeczne»**. Паявіліся ў ім навуковыя артыкулы, якія паказваюць разнастайнасць грамадства і наступствы гэтай з'явы ў выглядзе сацыяльнай няроўнасці, дыскрымінацыі і прадузятасцей, якія вызначаюць гэтыя працэсы. Як кажа Кацярына Штоп-Руткоўская з Інстытута сацыялогіі Універсітэта ў Беластоку, частка артыкулаў датычыць адукацыі па барацьбе з дыскрымінацыяй. Якія практычныя наступствы гэтага праекта? Гэта, верагодна, акажацца на працягу некалькіх гадоў на беластоцкіх, падляшскіх вуліцах ці стадыёнах.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Нашы «Дзяды»

**«Гэтае прадстаўленне стала сенсацыяй у тэатральнай культуры...» — Рыма Пачутэ, культуразнаўца. «Найлепшы спектакль у Беларусі!» — Андрэй Курэйчык, драматург. «Спектакль, якога мы чакалі амаль чвэрць стагоддзя!», «Новая легенда беларускага тэатра» — Валярына Кустава, крытык. «Гэтае прадстаўленне вельмі неабходнае, з пункту гледжання глыбіні нашай ідэнтычнасці» — Лявон Баршчэўскі, перакладчык. Такія толькі некаторыя думкі з'явіліся да гэтага часу аб беларускамоўных «Дзядах» паводле Адама Міцкевіча, ажыццёўленых у літоўска-беларускай капрадукцыі мінскім тэатрам «Ч» з удзелам зорак тэатраў з Беларусі. Спектакль будзе паказаны ў Беластоку (у Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі). Гэтай нагоды нельга прапусціць, аб квіткі варта задбаць ужо зараз!**




Прэм'ера сучаснай пастаноўкі твора класіка сусветнай літаратуры адбылася ў Мінску 17 і 18 красавіка мінулага года. Рэжысёркай з'яўляецца Рамунэ Кудзманайтэ, стваральніца тэатральнага хіта «Жанчына без цела».

Акцёрскі склад выдатны: Раман Падаляка (Густаў-Конрад), Святлана Анікей, Зоя Белахвосцік, Сяргей Краўчанка, Вольга Курэйчык, Андрэй Саўчанка, Дзмітрый Тумас, Іван Трус, Зміцер Ясіневіч, Надзея Анціповіч, Юлія Кадушкевіч, Генадзь Гаранскі, Таццяна Гуляева. Прадзюсерам з'яўляецца кіраўнік тэатра «Ч» Андрэй Чорны. Сцэнар быў напісаны Максімам Клімковічам, тэкст класіка пераклаў на беларускую мову Сяржук Мінскевіч.

«Спектакль — поўны алегорый і метафар, якія дазваляюць зразумець тое, чаго словы не могуць выказаць. Кожная дэталь на сцэне, кожны рух і рэплікі спасылаюцца на свабоду выбару, неабходнасць унутранага ачышчэння і індывідуальнай адказнасці», — можам прачытаць пра спектакль. І далей: «Любоў да роднай краіны, яе культуры і лёсу спасылаюцца на любоў да жанчыны, усяе рамантыкі радасці і выклікаў, суправаджаючых наймацнейшае пачуццё, назіранне за дзеяй».

У рэцэнзіі спектакля Валярына Кустава напісала ў «Новым часе»:

„У літоўскай пастановачнай групы з удзелам беларускіх акцёраў атрымалася стварыць існа нацыянальны беларускі спектакль. У якім, з аднаго боку, прасочваецца моцны бэкграўнд, пранікненне аўтара ў эпоху і матэрыял (з дапамогай экспертаў-кансультантаў у этнаграфіі, гісторыі і фалькларыстыцы), са спасылкамі да канкрэтных культурніцкіх традыцый — святкаванне «Дзядоў» (дзень памяці продкаў у беларусаў і аднайменнае шэсце на Курапаты) і гістарычных фактаў (Адам Міцкевіч уводзіць у твор сваіх сучаснікаў, удзельнікаў падзей тых гадоў). А з іншага — гэта абсалютна сучасная трактоўка паэмы Міцкевіча з акцэнтаваннем відавочных хваравітасцей беларускага грамадства: палітвязні, забарона нацыянальных сімвалаў, занядбанне традыцый і нацыянальнай памяці, змаганне за свабоду слова, душы ды самаідэнтычнасць. Уздымаецца таксама пытанне грамадзянскага і чалавечага выбару — здрады, помсты, несправядлівага пакарання, салідарнасці".

Дадала:

— Вялікая імправізацыя «Дзядоў» — удалы эксперымент з класічным творам, зразумелы і так чаканы на беларускай сцэне. Урэшце тэатр спрабуе не забаўляць пустымі камедыямі і не зацікаць замежнай груваcткай класікай (перадусім — расійскай). А расказваць пра сваё, пра складаныя рэчы мовай генетычна зразумелых беларускіх культурніцкіх кодаў, мовай сімвалаў, але сімвалаў чытэльных і ясных, мовай напраўду прыгожых балючых універсальных метафараў.

Як сказаў «Ніве» Андрэй Чорны, тэатр «Ч» быў заснаваны ў 2013 годзе як незалежная прастора для рэалізацыі смелых творчых амбіцый, спроба стварэння альтэрнатывы:

— Прынцып працы — праектны тэатр з запрашэннем пастаноўшчыкаў і артыстаў з розных краін і культур з мэтай стварэння высакаякаснага сучаснага прадукту. Так і першы спектакль (якраз «Дзяды» — М. Х.) стаў вынікам плённага супрацоўніцтва мастакоў, якія належаць да розных краін, нацый і мастацкіх традыцый. Наступная праца, спадзяюся, таксама стане падзеяй у культурным жыцці не толькі Беларусі.

«Дзяды» ў Беластоку зможам убачыць дзякуючы намаганням рэжысёркі Драмтэатра імя Вянгеркі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур. Мы гаварылі з ёй напярэдадні запланаванай працоўнай паездкі ў Мінск, Кіеў і Адэсу, дзе ў сталіцы Беларусі мела прыняць удзел у прэм'еры «Пана Тадэвуша» ў Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы і размаўляць аб супрацоўніцтве беластоцкага Драмтэатра з мінскім тэатрам, а таксама з іншымі творцамі. У апошні момант па незразумелых прычынах дазволу на выезд не даў ёй маршалак Падляшскага ваяводства, які з'яўляецца яе кіраўніком. Да паездкі і запланаваных сустрэч у Мінску, аднак, дайшло (пра гэта ў іншы раз). Аб гэтым, як гэта здарылася, што беларуска-літоўскія «Дзяды» будуць паказаны ў Беластоку, рэжысёрка сказала «Ніве»:

— На прэм'еру «Антыгоны» (29 верасня мінулага года перад каталіцкай кафедрай у Беластоку, раней дапрэм'ерны паказ прайшоў на плошчы ў Крынках — М. Х.), у якой іграе выдатны акцёр мінскага Купалаўскага тэатра Аляксандр Малчанаў, прыехала выдатнае тэатральнае прадстаўніцтва з Мінска, у тым ліку Раман Падаляка. Я паглядзела фрагменты. Для нас важна, каб прачытаць «Дзяды» ва ўсходнім кантэксце. Беларускі голас у «Дзядах» вельмі мяне ўцягнуў. Беласток, які з'яўляецца памежным горадам, першая тэатральная апора тут, на Захадзе, гледзячы з таго боку мяжы, і з'яўляецца варотамі Польшчы і далей Еўропы на Усход. Гэтае месца проста ідэальна падыходзіць для паказання «Дзядоў» і менавіта ў такой беларускай пастаноўцы, сумеснай літоўска-беларускай вытворчасці, нават з улікам пражываючай тут беларускай меншасці і яе інтэлектуальнай базы, якая павінна мець магчымасць убачыць гэтую пастаноўку. Мяне самую як рэжысёра цікавіць адчытанне «Дзядоў» беларусамі, тое, што з гэтага твора дастаюць.

Працягвала:

— «Дзяды» гэта драма пагранічча, так як цэлае Падляшша завешанае паміж польскай і русінскай ідэнтычнасцю. Сёння яны яшчэ больш ёмістыя, чым час Міцкевіча. Заданыя там пытанні вяртаюцца і жыва кранаюць і сёння. Яны могуць быць вельмі моцным палітычным голасам, так як гэта ў пастаноўцы тэатра «Ч». Усю традыцыю, таксама язычніцкую, упісаную ў «Дзяды», відаць тут, на пагранiччы. Мы заўважылі гэта таксама рыхтуючы «Антыгону». Відаць гэта ў аповедах людзей памежжа, тых, хто прысядаў да нас, хаця б у Крынках і іншых мясцовасцях Беласточчыны, дзе мы падрыхтавалі дапрэм'ерны паказ. У мяне было ўражанне, што яны нават гавораць Міцкевічам, што ў свеце, на які спасылаецца Міцкевіч у «Дзядах», спасылаюцца яны ў паўсядзённым, дваровым жыцці, у рытуалах, такіх як Радаўніца, якую мы, у сваю чаргу, выкарысталі ў спектаклі «Czarnobyl. Last minute».

Рэжысёрка Рамунэ Кудзманайтэ ў інтэрв'ю «Ніве», у сваю чаргу, прызналася:

— Ідэя пастаноўкі «Дзядоў» не давала спакою доўгі час рэжысёру тэатра «Ч». Гэта ён знайшоў мяне ў Вільні і прапанаваў, каб я стала рэжысёрам пастаноўкі. Ужо пры першай сустрэчы ён распавёў мне пра тое, як пад уздзеяннем «Дзядоў» у Польшчы (гаворка пра пастаноўку Казімежа Дэймэка ў 1968 годзе, забарона якой прывяла да вялікіх народных хваляванняў у Варшаве — М. Х.) нарадзіўся дэмакратычны рух за незалежнасць, а затым «Салідарнасць». І я вырашыла, што гэтым прадстаўленнем спрабую абудзіць душу беларусаў. Пастараюся разам з імі, з народам, шукаць шляхі, якія прывядуць да дэмакратыі.

Не скрывала:

— Сам па сабе тэатр, вядома, не зробіць рэвалюцыі, але нават кропля можа праліць хвалю пратэсту. Важна, каб беларусы самі ведалі, чаго хочуць і перасталі так баяцца Лукашэнкі, рэжыму.

Адзначыла таксама:

— Беларусы лічаць драму Міцкевіча сваёй нацыянальнай, беларускай, і яна для Беларусі актуальная да сёння. Палітычныя пытанні, аб якіх Міцкевіч пісаў у дзевятнаццатым стагоддзі, жывыя сярод беларусаў цяпер. Спектакль, спасылаючыся на продкаў беларусаў, іх спадчыну, заклікае знайсці ў сабе мужнасць і сілы супрацьстаяць тыраніі. У кожным беларусе спіць Конрад, але толькі праз страшныя духоўныя пакуты можа нарадзіцца.

Выконваючы галоўную ролю Раман Падаляка пра ідэю спектакля сказаў «Ніве»:

— У кожнага з нас ёсць блізкія, родныя, дзяды і бабулі. А таксама Дзяды ў сэнсе продкаў, што жылі на гэтай зямлі, нечага прагнулі, за нешта змагаліся. Калі мы губляем гэтую повязь з нашым мінулым, нам цьмянай падаецца будучыня. Дык праз абрад Дзядоў Адама Міцкевіча мы вяртаемся да тых часоў і тых праблем, што актуальныя для нас і зараз — бацькаўшчына, патрыятызм, змаганне за незалежнасць. Ідэя спектакля ў тым, каб гледачы ў зале адчулі сябе адным народам.

Распытвалі мы акцёра, у чым унікальнасць «Дзядоў» — тэатральнага праекта тэатра «Ч»:

— Па-першае, гэта прыватная ініцыятыва і праект недзяржаўнага тэатра «Ч». Звычайна, для камерцыйных праектаў бяруць больш «лёгкі» матэрыял, камедыю, на якой можна зарабіць грошы. Па-другое, гэта міжнародны праект — беларускія акцёры і прадзюсар ды літоўская рэжысура і пастановачная група. Па-трэцяе, гэта першая пастаноўка «Дзядоў» на вялікай сцэне ды калектыў акцёраў, што любяць гэты спектакль і з'яўляюцца добрай камандай.

Раман Падаляка, штодзень акцёр Купалаўскага тэатра (у апошні час іграў у «Пану Тадэвушы», у якім Міністэрства культуры забараніла паказваць сцэну з Пагоняй), падкрэсліў, звяртаючыся да ролі Конрада-Густава:

— Для нас Міцкевіч з'яўляецца гэтаксама прадстаўніком беларускай культуры, як для палякаў — польскай, а для літоўцаў — літоўскай. Ды падзеі, апісаныя ў «Дзядах», вельмі добра нітуюцца з беларускай рэчаіснасцю. Густаў-Конрад як два чалавекі ў адным. Першы пакутуе ад высокага кахання, другі бярэ на сябе адказнасць за лёс бацькаўкаўшчыны і змаганне за свой народ, дзе даходзіць нават да спрэчкі з Богам. Ён сталее на вачах, калі рушыцца гэтым шляхам. Паступова прывід ператвараецца ў ваяра, у майстра, што рушыць зямны шар і вызначае шлях птушкам, зоркам, а таксама намагаецца кіраваць людзьмі: «Я свой народ ствару як песню трапяткую і больш вялікае чым ты зраблю я дзіва, бо песня тая будзе назаўжды шчаслівa».

Андрэй Чорны ў гутарцы з намі адзначыў:

— Нягледзячы на тое, што паэма «Дзяды» Адама Міцкевіча, бясспрэчна, належыць да класікі, тэмы, якія яна падымае, уяўляюцца нам як ніколі актуальнымі сёння. Праблемы беларускага грамадства таго часу, на жаль, па-ранейшаму злабадзённыя: забарона нацыянальных сімвалаў, забыццё традыцый, страта нацыянальнай памяці, адсутнасць свабоды слова і жадання змагацца за яе, адсутнасць самаідэнтычнасці. Не менш востра стаіць і пытанне грамадзянскага і чалавечага выбару ў такіх катэгорыях, як здрада, помста, несправядлівае пакаранне і адсутнасць салідарнасці. Але сёння наша грамадства гатова абмяркоўваць гэтыя пытанні, хацела б іх абмяркоўваць актыўна, што і вызначыла наш выбар на карысць паэмы Міцкевіча як першай пастаноўкі Тэатра «Ч».

Падкрэсліў:

— Гэта заклік гледачу да дыялогу з дапамогай мастацкай мовы! Заклік да развавання! Заклік да абуджэння!

Агнешка Карыткоўская-Мазур запрашае:

— Мы змаглі ўстанавіць дату спектакля на 20 сакавіка, каб такім чынам уключыцца, хоць трохі раней, у святкаванне Дня Волі 25 сакавіка. Так атрымалася, што на нашае 70-годдзе — у верасні — і наш тэатр рыхтуе «Дзяды» ў рэжысуры Наталлі Карчакоўскай. Тыя ў сваю чаргу будуць ажыццяўляцца ў грамадска-палітычным кантэксце Польшчы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## По гарачых слядах

Раніцай 11 студзеня г.г. мой сябра, у якога слабы зрок, выбраўся ў Беласток. А гадзіне 8.26 сеў у перапоўнены аўтобус прыватнага пасажырскага перавозчыка „Voyager Trans”. Папрасіў ільготны білет для невідушчых і паказаў дакумент аб інваліднасці першай групы з сімвалам прычыны інваліднасці па зроку 04-0, затым падаў грошы.

Вадзіцель глянуў на адлічаныя грошы і зараз жа пыхліва сказаў:

— Tu jest za mało! Trzeba więcej. Bilety podrożały.

Пасажыр узяў больш грошай з кашалька і падаў іх на далоні. Які білет яму падаў фанабэрысты шафёр, ён не мог прачытаць. Дома жонка паглядзела білет і сказала, што не меў рацыі вадзіцель. Ён даў білет са скідкай не на 93 працэнты, а на 49. Ашукаў невідушчага. У тым канкрэтным выпадку пасажыр заплаціў пяць разоў больш (!) чым было трэба.

Пішам пра гэта, бо не можам пагадзіцца з тым, што ў нашай дзяржаве, як часта заяўляюць айчынныя палітыкі — дзяржаве права — можна крыўдзіць чалавека і без гэтага ўжо пакрыўджанага лёсам. „Ніва” заўсёды бярэ ў абарону слабейшых ды пакрыўджаных. У гэтым выпадку, калі спатрэбіцца, можам зацікаўленым паказаць той білет і дакумент на 93-працэнтную льготу для невідушчага пасажыра.

Фірма „Voyager Trans” (Andrzej Kiejko, 15-048 Białystok, ul. Skorupska 30/1 lokal 6) павінна пацікавіцца нашай крытыкай ды заняцца справай. Кожны шафёр павінен быць больш карэктны і ўважлівы да пасажыраў. А ўжо асабліва да інвалідаў. Нахабства і пыхлівасць (а нявetліва пачынаюць ставіцца да пасажыра — як правіла — тады, калі падаюць не той што трэба білет) трэба выкараніць.

**(яц)**

## Дасканалыя спалучэнні

Журавіна і яблык: антыаксідацыйны патэнцыял гэтых пладоў значна большы, калі спажываем іх разам, чым калі спажываем іх асобна.

Памідоры і браколі: памідоры багатыя ў лікапін, антыаксідант, які нейтралізуе свабодныя радыкалы пашкоджваючы ДНК, а злучэнні ў браколі дапамагаюць выдаліць свабодныя радыкалы з арганізма.

Куркума і перац: інгрэдыент перцу піперын павышае даступнасць, а таксама і супрацьрадыкальнае ўздзеянне куркуміну больш за сто разоў.

Часнок і тлустыя марскія рыбы: дадаўшы часнок у рыбныя стравы, значна ўзмацняем эфект амега-3 на арганізм, асабліва ў рэгуляцыі ліпіднай сістэмы абмену рэчывамі.

Сушаныя абрыкосы (марэлі) і міндаль: міндаль памяншае акісленне «дрэннага» халестэрыну LDL, але яго карыснае ўздзеянне наступае толькі тады, калі садзейнічае разам з вітамінамі E і C, крыніцай якіх з'яўляюцца абрыкосы.

Соўс сальса і авакада: мананенасычаныя тлустыя кіслоты, якія змяшчаюцца ў авакада, павялічваюць паглынанне кароціноідаў так, што з'яўляюцца яны больш засваяльнымі для арганізма.

Лімон і шпінат: змешчаны ў лімоне вітамін C значна павялічвае паглынанне жалеза са шпінату.

**(лук)**

# Вялікае калядаванне ў Бельску-Падляшскім



Вялікае ўражанне сярод публікі выклікалі калядкі ў выкананні «Васілёчкаў»

**Ініцыятыва калядавання на сцэне Бельскага дома культуры паўстала звыш дваццаці гадоў таму. Сёлета XXIV „Вечарына калядак” адбылася 10 студзеня і, нягледзячы на дажджлівае і ветранае надвор'е, у канцэртнай зале БДК сабралася мога публікі. Тыя, што прыйшлі пазней і не змаглі знайсці сядзячага месца, тоўпіліся побач уваходных дзвярэй.**

Вялікае ўражанне выклікалі выступы з традыцыйнымі калядкамі беларускага хору песні і танца «Васілёчкі» і мужчынскага беларускага хору «Куранты». «Васілёчкам» акампанемент на акардэоне састаўляў іх музычны кіраўнік Мікола Фадзін, а падрыхтавацца да выступу дапамагала таксама яго жонка Людміла Фадзіна. Калі заспявалі яны калядкі «Ой на моры, моры» і «У стране іудзейскай», публіка была захоплена вакальнымі ўмеласцямі «Васілёчкаў» і, канешне, рада была святочнаму настрою.

— Калі я святкавала Раство Хрыстовае ў Бельску, прыходзілі каляднікі з Пакроўскай царквы, але калі мы наведалі свякоў у Махнатым, то там дзверы ў хаце не зачыняліся, бо так часта заходзілі калядоўшчыкі. Сёння атмасфера цудоўная, бо ўсе мы славім Хрыстовае Нараджэнне. «Васілёчкі» штогод, пачынаючы з дзевяностых гадоў, прымаюць удзел у «Вечарыне калядак». Бачу, што гэтае мерапрыемства аб'ядноўвае бяльшчан, — сказала арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

«Куранты» падрыхтаваліся да калядавання пад наглядам свайго музычнага кіраўніка Аліны Негярэвіч і дастойна запрэзентаваліся на сцэне з калядкамі «Ноч ціхая над Палесцінай» і «Нова радасць стала». Атрымалі яны гарачыя апладысменты, бо бельская публіка ведае, што ў час калядавання самая важная ахвота славіць Хрыстовае Нараджэнне і ўсе калядоўшчыкі з вялікай ангажаванасцю гэта рабілі.

— У мой дом у час святаў заходзілі калядаваць дзеткі. Праваслаўныя калядкі спявалі нават каталікі. Калядавалі таксама харысты з Пакроўскай царквы. Сёння калядуем разам з калядоўшчыкамі іншых веравызнанняў, так як і жывем побач сябе, — заявіў Павел Лемеш з «Курантаў».

— «Вечарына калядак» — гэта падтрымліванне традыцыі калядавання ў перыяд Божага Нараджэння. Мы сёлета рашыліся ўключыць у калядаванне публіку і шэсць вядомых усім калядак сабраныя ў канцэртнай зале заспяваюць самі. Сцэнарый сённяшняга мерапрыемства мы рыхтавалі ў паразуменні з выканаўцамі так, каб калядкі не паўтараліся. Стараемся таксама паказаць больш традыцыйнага калядавання, калі людзі хадзілі па хатах, — заявіла дырэктар БДК Малгажата Біль-Яруззельская.

Цікавым момантам у час калядавання быў уваход перад самую публіку калектываў «Ранок» са звёздачкай і «Фарт» з яслямі. Заспявалі яны традыцыйныя калядкі і ў падзяцы за калядаванне атрымалі цукеркі ад Яраслава Бароўскага, ад нядаўна выконваючага абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага. Побач яго сядзеў протаіерэй Юры Багацэвіч, настаяцель Прачысценскага прыхода і заадно дырэктар Дома праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім (ад якога выступілі тры выканаўцы калядак). Сярод публікі былі святары розных веравызнанняў і прадстаўнікі мясцовых самаўрадаў. Перад сабранымі калядаваў калектыў Касцёла пяцідзесятнікаў з Бельска-Падляшскага пад наглядам Анджэя Місюка, які карыстаўся музычнымі інструментамі. У час вечарыны з калядкамі выступілі таксама лепшыя каталіцкія хары з Бельска — хор Парафіі Божай міласэрнасці пад кіраўніцтвам Катажыны Барысевіч і хор Парафіі Маці Божай з гары Кармель пад кіраўніцтвам кармелітанкі, сястры Эвы Камінскай.



Удала калядаваў калектыў «Луна» з Парцава

— Прыемна паслухаць, калі ўвесь горад спявае, і паглядзець, як на сцэне выступаюць прадстаўнікі розных пакаленняў, — заявілі Юліта Катовіч і Паўліна Паўлючук з калектыву «Фарт».

Мерапрыемства вяла інструктар БДК па тэатральнай дзейнасці Альжбета Фіёнік, заахвочваючы публіку да супольнага калядавання.

— Мы выступілі з прапановай прыняць удзел у калядаванні да ўсіх бельскіх прыходаў. Сёння спяваюць таксама калектывы з нашага дома культуры, — сказала дырэктар БДК Малгажата Біль-Яруззельская.

Прадстаўнікамі БДК былі таксама каляднікі Хору польскай нацыянальнай песні, якія спявалі пад кіраўніцтвам Альжбеты Більмін. Прыгожа выступілі і ўдала калядавалі калектывы «Луна» з Парцава і «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім, якім апякуецца Анна Фіта.

— Мы на вечарыне калядуем першы раз. Выступалі дагэтуль на розных мерапрыемствах, а цяпер рашыліся заспяваць калядкі, — сказала белліцэістка Аляксандра Варшыцкая з калектыву «Астэрыя», якая раней выступала ў калектывах з беларускім рэпертуарам.

— У мінулым у маёй роднай вёсцы Мокрае калядавала многа моладзі і пасля мы гасцявалі. Зараз мала дзетак у Мокрым. Калектыў «Луна» выступае ў асноўным з народнымі песнямі, а ў калядны перыяд мы спяваем калядкі, — сказаў Славамір Нікіцюк з «Луны».

Ірэна Алексяюк з «Луны» пахваліла атмасферу ў час калядавання ў доме культуры. Удала калядавалі ўдзельніцы дзявочага хору Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім, якімі таксама апякуецца Анна Фіта.

— Мы рады, што сёння калядавалі на сцэне. У час святаў мы калядавалі па хатах бяльшчан, — заявіла Анна Фіта.

Пад кіраўніцтвам Марты Зінкевіч на высокім мастацкім узроўні выступіў хор Прачысценскага прыхода ў Бельску.

— Нашая «Жэмэрва» ў час Раства Хрыстовага калядавала ў Гусаках і Відаве. Мы не ўяўляем сабе святкавання без калядавання па хатах. У наступным годзе можа пакалядуем таксама ў Бельскім доме культуры, што адзін раз ужо рабілі, — заявіла харыстка з Прачысценскай царквы Анна Фіёнік, кіраўнік студзіводскай «Жэмэрвы».

— Мы калядавалі ўжо ў нашых прыхаджан, а сёння калядуем перад жыхарамі Бельска, — сказалі харысткі з Прачысценскага прыхода Кацярына Дабрачынская і Паўліна Троц.

— Выступаючы ў доме культуры, мы хацелі паказаць нашыя ўмеласці і таму заспявалі складаныя для выканання нетрадыцыйныя калядкі. У гэтым і ў мінулых гадах, калядуючы па хатах, спявалі мы традыцыйныя калядкі, якія нашыя людзі ведаюць, — сказала Марта Зінкевіч.

Настаяцель Прачысценскай царквы, протаіерэй Юры Багацэвіч выявіў радасць ад удалага калядавання хароў з яго парафіі і калектыву «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры, якім ён апякуецца, а таксама пахваліў астатніх калядоўшчыкаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Карнавал у стылі дыска

Не ведаю чаму, але заўжды, калі ў канцы лістапада пачынаецца Піліпаўскі пост, то не магу дачакацца паслясвяточнага карнавалу. Калі пачынаюцца Каляды, можна сапраўды пасля саракадзённага посту, вяртаючыся з усяночнай, з'есці свойскае мяса, каўбасу, куньпу, бачок, паляндвіцу ды пасля поснай абстыненцыі выпіць чарку ды паслухаць любімую музыку — папросту, легальна расслабіцца пасля посту. Мая сям'я і сябры лічаць мяне дыджэем або прайгравальнікам-аўтаматам, які па жаданні пускае іх любімую песню. А сапраўды нешта ў мяне кіпіць, аж хочацца пагуляць. А як гуляць, то на беларускай дыскатэцы ў Беластоку. Я сам, будучы студэнтам, выхаваўся на беларускіх дыскатэках у клубе „Premiera 2000". А зараз набілася тых клубаў — „Touch" („Тачка" — як кажа мая нявеста), „Gwint", „Black Diamant" („Блядзь Дыямант" — як кажа мой сябар). Гэта былі сапраўды забавылюкс. Памятаю 2003 год. Тады ўсё гэта пачалося — новыя месцы, новыя людзі ды проста шалёнае жыццё. Гэта быў пік папулярнасці беларускай музыкі ў беластоцкіх дыскатэках. Гэта нічога больш як народная вясковая музыка, акрашаная ў сучасных танцавальных імпрэзах. І гэта нічога, што музыканты апранутыя ў фальклорную вопратку.




**„Бабо, дай біта!"**

— крычыць нейкі маладзён да разжалена рассліваных бабуль родам з „Цэпэліі" на БГКТоўскім Купаллі ў Белавежы. Бо хто ж зараз хоча слухаць сумныя песні! У наш час мусіць быць біт, паўэр ды вясёлы тэкст, бо інакш здохнеш з нуды. Такое правіла маладых людзей. „Вы, беларусы на Падляшшы, маеце найлепшых гарманістаў ды найпрыгажэйшыя фальклорныя касцюмы!" — з захапленнем звоніць да мяне пан Гэнек з Алецка. Я для пана Гэнька выслаў пачку кампакт-дыскаў нашых нацыянальных музыкантаў. „«Добрые грайкі» то музыка!" — крычыць у захапленні беларускай музыкай дзяўчына да сваёй сяброўкі-спадарожніцы ў беластоцкім гарадскім транспарце. Я, быццам „дэтэктыў-інвектыў" з Радыё „Вава", званю да сябры па прозвішчы Грайко; „Гэта ты заснаваў гурт «Добрые грайкі»?". „Ну што ты жартуеш з мяне", — абураецца на мяне сур'ёзны сябар. Другі мой сябар-равеснік Коля з Гайнаўкі кажа: „Як граюць «Добрые грайкі» то няма х... вэ всі, каб не ўдалася імпрэза!". А што з нашымі „Асамі" ці „Прымакамі"?. „Гэта

**бяседныя каманды!**

— значыць, музыканты для дачнікаўпенсіянераў!" — смяецца мой сябар Адам з радыё. Мода на бяседу ў нашым народзе ніколі не знікла. Народ любіць выпіць манапольку ці самагонку, закусіць салам або каўбасаю з грыля ды паслухаць любімай бяседнай каманды. А там ляцяць словы тыпу:

*Гэй, гоп, бесяда,*
*Вып'емо за бабу і за дзяда.*
абo
*Гэй, весельная каманда,*
*Гуляць нада, гуляць нада.*

Прастата ды прымітывізм заўжды падабаліся халопам з прымітыўнай пачатковай адукацыяй, што кніг не чытаюць, а „Прымакоў" ці „Аса" лічаць суперзоркай! Наогул народ становіцца прымітыўным. Людзям напляваць на высокія ідэі, літаратуру, паэзію Купалы, Коласа або Багдановіча. Ім трэба гарэлкі, грыля ды „Прымакоў", а астатняе ім непатрэбнае, бо нуднае. І так яны выхоўваюць сваіх дзяцей і ўнукаў, што на Каляды не ўмеюць свяваць калядак, ды не паважаюць старэйшых, дзядоў ды бабуль. Таму ім патрэбны паўэр, гарэлка, біт, дзяўчына-мадэль або багаты хлопец. Поп-культура паказвае матэрыялізм ды нішчыць нявінныя душы маладых людзей. А музыкантам вясельных каманд залежыць на тым як укрäсіці ў рускіх або ўкраінскіх выканаўцаў прыгожую песню,ператлумачыць на беларускую мову ды запісаць на дыск як сваю кампазіцыю! А народ паверыць, што „Ас" і „Прымакі" пішуць пекныя песенькі! А гэта не інакш як песні Віктара Каралёва, Андрэя Бандэры ці Сяргея Славянскага або Веркі Сярдзючкі! Дастаткова загалоўкі песень упісаць кірыліцай ў Google ці You tube і голая праўда на вачах!

**„А мы любім Полё-ТВ!"**

— гаворыць мне маладая пара людзей з Чаромхі, якія вязуць мяне ў Бельск. — „Гэты Збышэк Пэркоўскі сапраўды смешны". Я тэму ведаю, таму далучаюся да размовы. „А, гэты што сказаў, што жонка не дрэва, дык не трэба цягнуць да лесу, значыць на забаву?". „Ага, той самы", — падтакваюць сімпатычныя людзі. А што ж маладым на вёсцы трэба, калі ёсць машына, праца ды любімая дзяўчына. „Паліва дарагое!"— падхопліваe хлопец за рулём. „Дык едзьце за Полаўцы, там танней", — раю я. „Мы ж і ездзім". Пажадаўшы вясёлых свят, я выходжу з машыны. Сапраўды, сімпатычна ехалася. Люблю нашую падляшска-беларускую моладзь ды шкада, што мала спатыкаюся з імі. Яны маюць свой свет імпрэз, забаў, дыскатэк. А нам — старэйшым на 10 гадоў, даўно ўжо адшумелі майскія даждж. Засталіся толькі ўспаміны нявіннага першага каханя з пачатковай школы, калі мне было 14-15 гадоў — гэта быў сапраўды цудоўны свет. Не было мабільных тэлефонаў, інтэрнэту, камп'ютараў, але неяк усе былі больш шчаслівыя. А не так як зараз у гэтым марафоне-пагоні за грашом, каб больш накапіць, чым сусед, каб паказацца на „Аднакласніках", каб пахваліцца. А ў гэтым столькі ж фальшу, хамства, нянавісці! Часам варта падумаць куды гэта мы бяжым. Ды становіцца сумна...

**Юрка БУЙНЮК**

# Вось якая наша крама!

У Новым Ляўкове (Гайнаўскі павет) прадуктова-прамысловая крама не мае шчасця да прадаўшчыц. Яны тут часта замяняюцца.

Апошнім часам краму закрываюць тады, калі толькі прадаўшчыцам захочацца (у ёй замяняюцца мамі з дачкой). У краме няма нават шыльдачкі, калі краму адкрываюць! Мабыць таму, каб не нерваваць пакупнікоў. Жыхары ідуць са скаргай на прадаўшчыц да солтыса. Солтыс тры разы тэлефанаваў старшыні праўлення Гміннага кааператыва ў Нараўцы. Калі гэта было першы раз, яна раіла яму самому папярэдзіць прадаўшчыц. Іншым разам сказала, што справай займецца. На кароткі час была паправа, ды зноў і зноў вяртаецца ўсё, як кажуць, на старыя пуці.

А ўжо апошнім часам справа набыла скандальныя рысы. Прадаўшчыца прыязджае раніцай у краму, каб прадаць піва сваім „пастаянным кліентам". Апошні раз гэтак здарылася 23 лістапада 2013 г. А 10 гадзіне крама была ўжо закрыта. „Пастаянныя кліенты" (яны ўсё ведаюць) паінфармавалі мяне, што прадаўшчыца паехала ў школу. Для мяне гэта не навіна — так было і тыдзень раней.

Для Нараўчанскага кааператыва насталі цяжкія часы. Ён зараз прадае два будынкі былых сваіх крамаў у Гушчэвіне і Семяноўцы, абмяжоўвае дзейнасць крамы (адракаецца ад прамысловай секцыі) у цэнтры Нараўкі (ля помніка). А ў краме ў Новым Ляўкове не будзе страт? Чаму такое самавольства прадаўшчыц? Я солтысам трэці год і добра ведаю колькі часу не працавала крама, якую замыкалі на гадзіну і дзве раней, чымсьці павінна працаваць. А то і зусім бывае закрыта. Чаму? Невядома. Ніякай картачкі. Новаляўкоўцы не патэлефануюць у ГС пра хібы ў дзейнасці крамы ў сваёй вёсцы. Яны так кажуць мне: «Мы цябе выбралі, ты солтыс, ты і дзейнічай». Яны не будуць настройваць прадаўшчыц супраць сябе. Іх хата з краю. А то яшчэ будзеш у бядзе, то і на г.зв. крэску нічога не дастанеш.

Хто любіць карэспандэнта „Нівы", калі той напіша пра нешта дрэннае ў сваёй вёсцы ў газету? Ёсць такія „добразычлівыя" аднаясльчане — жанчыны і мужчыны, якія мяне не адзін раз папярэджвалі не пісаць пра хібы ў працы нашай крамы. Яны кажуць: «Плюнь на ўсё, калі хочаш што купіць, тады ідзі ў Плянту, або едзь у Старое Ляўкова ці ў Нараўку, дзе крамы працуюць беззаганна. Ты ездзіш таксама ў Беласток і там рабі пакупкі». Вось табе рада! Крытыкуючы, ворагаў сабе толькі нажывеш. А мне здаецца, навошта тады крама ў Новым Ляўкове, калі трэба шукаць іншай (адкрытай у вызначаны час)? Я чакаў паправы як яе працы амаль тры гады і хопіць.

Я не паслухаў, як бачыце. Самаўпраўству трэба паставіць таму. Досыць гульні ў хованкі. Крама ў вёсцы — не ўласны фальварак прадаўшчыц, на якім: як захачу, так і зраблю. Тэма, якую я ўзняў, грамадская, агульнавясковая, набалелая.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Як калісь лячылі | Кароста

Тадося ўстала чуць свет. Выйшла на панадворак. Глянула ўверх. Неба зацягнулі асеннія хмары. Учора цэлы дзень ішоў халодны дождж. Увесь падворак тануў у гразі, цяжка дайсці з вядром да калодзежа. Прынесла з-пад дашка кашэль торфу і кулік ламачча і на момант, не скідваючы запэцканых галошаў, прысела на лаве ля акна. У галаве адна думка і словы суседкі Барвы ламаталі як па бубне: „Усадзі на момант дачку ў цёплую хлебную печ, у печ, у печ!.." Устала, заглянула ў ванкер, дзе спала Зіначка. Дачушка спала з паднятымі ўверх ручкамі, на якіх між пальцамі відна папэнканую скуру, ад драпання. Сэрца маці сціснулася ад жалю. „Ці гэтая бяда толькі ў мяне?" — суцяшала сама сябе Тадося. Перад нядзеляй зайшла была да суседкі Олькі і ўбачыла тое ж самае — усе трое дзяцей ляжалі на саламяным сянніку, на падлозе з тырчаўшымі, як калочкі, ручкамі. Жахлівая карціна. „Мая Зіначка бегала тады да Мані, вось і напэўна прыцягнула тую паскуду-каросту, надзерла бурхлі паміж пальцамі, аж страшна глядзець!"

Няма выхаду, трэба зрабіць, як раіла Барва. „Паспрабую... Пачакаю толькі, каб муж выехаў з хаты, мо не пазволіць..." Самен ужо апрануўся, збіраючыся да млына — мука на хлеб канчалася, а ў жорнах толькі грэчку змелеш. Тадося выцягнула з духоўкі яшчэ ад вечара крышку цёплую грэчаную кашу, наліла квартачку кіслага малака і паставіла мужу на стол. Той паспешна і ціхенька паеў, надзеў шапку на галаву і выйшаў з хаты. Неўзабаве пачулася пырханне кабылкі і скрыгат жалезняка. Тадося глянула ў акно і бачыла, як воз з мужам павалокся брукаванай балоцістай вуліцай у напрамку Кожына.

Тадося выдаіла кароўку, управілася з жывінай і сама прысела ля стала, каб што-небудзь перакусіць. У той момант у кухню ўбегла заспаная яшчэ Зіначка:

— Мама, я есці хочу, учора вэчэры нэ ела, так рукі свэрбіелі, хотела хутко заснуті, — азвалася слабым галаском дзяўчынка.

Маці паставіла місачку з кашай і квартачку свежага малака. Зіначка паела і зноў легла ў пасцель. Тадося нарэшце распаліла ў хлебнай печы і крыху прыпаліла голлем, каб хоць не замнога — баялася. Лагодна пазвала Зіначку:

— Ну, даражэнькая, на хвілінку ўсаджу цябе ў печ, то гэтыя пархі пасохнуць...

Зіначка са страхам у вачах не баранілася, улезла ў печ. Зараз жа пачала душыцца, не магла вымавіць слова. Тадося ўміг уявіла сабе пагрозу і адным рухам выцягнула дачку з печы. Дзяўчынка цяжка хапнула паветра. Толькі вочы зрабіліся ў яе вялікія ад пярэпалаху.

Тадося доўга не магла забыць, як праз сваю дурасць амаль не спекла сваю Зіначку. Дзяўчынка надоўга запамятала гэтае страшнае здарэнне, а, можа, і на ўсё жыццё. Тадося нікому, нават мужу, не піснула словам аб „лячэнні", дачцэ таксама забараніла. Старалася выкінуць з памяці сваю дурасць. Нават Барва ніколі не даведалася аб яе глупстве, якое амаль не закончылася трагедыяй. Не толькі адна Тадося „лячыла" каросту такім спосабам. Іншыя ў вёсцы не прызнаваліся.

**Ніна БРУЧКО**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

**Вікторыя ПАТОНЕЦ,**
*Старое Ляўкова, ПШ у Нараўцы*

## Коцік

Маленькі шэранькі коцік
Заўсёды мяне чакае,
Калі добры настрой мае.
Я з ім сябрую і гуляю,
Калі трэба яму памагаю.
Тады ён цешыцца, скача
І ласкава на мяне спаглядае,
Ці малачко атрымае.

## Вожык

Маленькі шарык
Востры як іголка
Ляжыць у траве
І лісточкі дзяўбе.
Калі дзеці ідуць,
На вожыка спаглядаюць
І яго іголак дакранаюць.



Фота Мацея Халадоўскага

*Малыя каляднікі ў час канцэрта „Гвязда і калядка"*

**Юля ЛЯСОТА,**

## Грыбочкі

Растуць у лесе.
Людзі іх збіраюць
І ў кошыкі іх укідаюць,
Дахаты іх прыносяць,
Абіраюць
І добры суп вараць
і спажываюць.

## Жыццё

Здаецца, што гэта сон.
Але — гэта не сон.
Гэта жыццё, якое
так хутка бяжыць.
Здаецца, нядаўна малыя,
у дзіцячы сад мы хадзілі,
а ўжо столькі пражылі
ў гэтым маладым свеце!

## Дзядуля

Мой дзядуля.
Мой каханы
І для мяне такі адданы.
Я яго люблю, шаную.
Часта з ім размаўляю.
Ведаў мае ён без ліку.
Часта ходзіць у бібліятэку.
Ён добра знае,
Што я яго кахаю.



Фота Мацея Халадоўскага

## Бярозка

**...Бясконцая зімовая, цёмная ноч. Вецер б'ецца аб сцяну пругкім крылlем, сярдзіта завывае ў падстрэшшах хат, скавыча ў завугеллі. Усхадзілася злосная завіруха.**

**Мне не спалася. Здавалася, во-во густы марак выпне шыбы, зазвініць шкло і зябкая сцюжа загуляе па хаце.**

**Бярозка за акном дрыжыць, схіляецца долу ад сібернага ветру, шкрабае па шкле. У шуме дрыжачай трывогі заціснула снег у далонях. Уся прамерзлая наскрозь, залубянелая. Цягнецца яна да жылля.**

**Як жа перабыць табе суровы час? Як цябе пусціць у хату?**

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Паэты ў Ляўкове

У Нараўчанскай гміне шмат паэтаў. І ўсе іх ведаюць. Друкуюцца іх творы ў „Зорцы" і ў „Ніве", у некаторых ёсць ужо свае выданыя кніжкі па-беларуску. На літаратурны конкурс „Дэбют", які штогод праводзіцца ў „Ніве", найбольш сваіх твораў прысылаюць і дарослыя, і маладзейшыя ўдзельнікі, што родам з Нараўчанскай зямлі — разам будзе недзе адна трэць усіх канкурсантаў! Можа сам клімат спрыяе, што вырастаюць такія прыгожыя „Кветкі" (Вікторыя Патонец) і „Зоркі" (Юлія Лясота) з Ляўкова? Пастаянна ў святліцах вёсак адбываюцца літаратурныя сустрэчы, на якія прыходзяць чытачы. Вось на чарговую сустрэчу 16 студзеня ў марозны і снежны вечар сабралася паўнютка зала ў самаўрадавай святліцы ў Старым-Ляўкове. Выступалі аўтары Валянціна Мядзведзь з Семенякоўшчыны, Ала Ясвіловіч з Семяноўкі, Кастусь і Янка Целушэцкія з Новага Ляўкова. Сустрэча доўжылася аж тры гадзіны! Сярод слухачоў былі нашы маладыя паэтэсы і Куба Кардаш, які ўспамінаў сустрэчу ў гэтай святліцы з Мірай Лукшай, калі ва ўзнагароду атрымаў „Жывінкі з глыбінкі", адну з самых папулярных тут кніг — яе пазычаюць і чытаюць і моладзь, і старэйшыя чытачы ляўкоўскай бібліятэкі. Вікторыя Патонец у конкурсе прыняла ўдзел ужо чацвёрты раз — гэта яна запачаткавала такі актыўны ўдзел нараўчанскіх школьнікаў у „Дэбюце". А творы Юлі Лясоты, сёлетняй дэбютанткі, таксама спадабаліся чытачам. Можна спадзявацца, што яшчэ не раз пачытаем іх творы на нашых старонках!



(лук)

# Вершы Віктара Шведа

## На ўроку

— Важная сёння дата,
Цікавае здарэнне.
Роўна а дзесятай
Месяца зацьменне.

Хлопцы і дзяўчыны
Агледзець павінны.
Было пытанне Адама:
— А на якой праграме?

## Меў шчасце

Прызнаўся ў хаце Коля:
— Меў сёння шчасце ў школе.
Я крыху хуліганіў,
Абурылася пані.

І выйшла нецікава,
Хацела ў кут паставіць.
Хоць быў я вінаваты -
Куткі былі заняты.





Наталля ВАСЬКО,
*Тарнопаль, Гімназія ў Нараўцы*

## Крылы

Людзі робяць крыўду,
Падцінаюць крылы....

Але ты ляці,
Махай рукамі!
Ляці яшчэ вышэй,
Там, дзе ты не быў!
Развітайся з мінулым,
Прывітай будучыню.

Тады забудзеш пра людзей,
Развінеш свае крылы.

Барбара ДАМБРОЎСКАЯ,
*Плянты, школа ў Міхалове*

## Дзень нараджэння

Сёння дзень такі,
Калі сум ідзе ў кут,
Мары здзяйсняюцца
І сілы дадаюць.
Кожны віншуе:
Здароўя, шчасця, удачы.
А я віншую радасці
І жыцця без непрыемнасці,
Каб кожны дзень быў такі,
У якім сонца дае добрыя знакі.

# Два маразы

*Беларуская народная казка*
*(апр. Якуб Колас)*

Гулялі па полі два маразы, два родныя браты: мароз Сіні-нос і мароз Чырвоны-нос. Гуляюць-пагульваюць маразы, адзін аднаго пахвальваючы. А ноч ясная-ясная. Прасторна маразам на волі. А ціха, так ціха, нібы жывой душы не засталося на свеце. Перабеглі маразы з поля на лес. Бегаюць, палускваюць, з дрэва на дрэва пераскокваюць, зайчыкаў палохаюць. З лесу ў вёску заскочылі і давай па даху страляць.

— Эге, — кажа мароз Сіні-нос, — усе пахаваліся, баяцца на двор вылезці.

— Няхай толькі вылезе хто: задамо яму страху, — адказвае мароз Чырвоны-нос.

Пачало развідняцца. Паваліў з комінаў дым густы. Заскрыпелі калодзежы. Павыходзілі мужчыны з хат. Хто малаціць пайшоў, хто ў лес па дровы збіраецца.

— Стой жа, брат, — сказаў мароз Чырвоны-нос. — Пабяжым жа мы на дарогу ў поле.

І пабеглі яны зноў у поле; стаяць, прытуліўшыся, падарожных чакаюць.

Заскрыпелі сані на дарозе. Зазваніў дзесь званочак пад дугою.

У санях селянін сядзіць, коніка паганяе. А ззаду за ім зухаўскі вазок плыве. Званочак пазвоньвае.

— Ну чакайце ж вы, — кажа мароз Сіні-нос. — Ты бяжы за мужыком, а я за панам паганюся.

І пабеглі яны падарожных марозіць. Доўга бег мароз Сіні-нос, пакуль пана дагнаў. Нарэшце дагнаў, пад футра залез, цяпло выганяе адтуль. Пацікаецца пан, ногі зябнуць, холад па целе пайшоў, панскі нос пасінеў. А мароз Сіні-нос толькі пасмейваецца. Ледзь да смерці пана не замарозіў. А мароз Чырвоны-нос дагнаў селяніна і давай яго марозіць.

— Эге, мароз не жартуе, — кажа селянін. Злез ён з саней, бяжыць, нагамі тупае, рукамі аб плечы б'е. Прабег так з паўвярсты, аж горача стала яму. Сеў сабе на сані, едзе — і гора мала.

— Ну пачакай ты, брат: прайму я цябе, як ты дровы сячы будзеш.

Заехаў чалавек у лес. А мароз Чырвоны-нос выперадзіў яго, у лесе чакае. Выпраг коніка селянін, сякеру ўзяў ды як пачаў секчы — горача стала яму. Скінуў кажух і давай там белыя крос-ны ткаць.

Зрабіўся кажух белы як снег. Насек дроў чалавек, да кажуха ідзе, а ён увесь абмёрз.

— Эге, браток, дык ты тут!

Узяў пугаўё ды як стаў малаціць — ледзь жывы выскачыў мароз Чырвоны-нос ды драла ў лес.

Узлаваўся мароз Чырвоны-нос на селяніна, але ніякай рады даць яму не можа.

# Увага, конкурс!!! (№ 4-14)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 9 лютага, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**

Дзед ........
стаміўся троху —
Лёг у мяккую бярлогу.
Смачна спалася яму,
не ўстаў усю зіму.

**2.**

Беларускія цары?
Не цары — гаспадары
у дрымучым гушчары.
Як ідуць — бары гудуць.
П'юць — усценяцца азёры.
Зарыкаюць — нікнуць зоры.
Узвышаюцца як горы.
Хоць звяры яны,
ды ўсё-ткі
неўміручыя, бы продкі.
(паводле Дануты Бічэль-Загнетавай)

Адказ на конкурс-загадку № 1-14: сініца, снегіры.

Узнагароду — кніжыцу „Блог Усяслава Чарадзея"— выйграла Магдалена Мішчук з Арэшкава. Віншуем!

# Польска-беларуская крыжаванка № 4

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 52:

Сцяг, гама, пір, кола, шаль, рысь, лак, нос, пачатак. Снег, шыла, касач, польска, гіль, гара, на, мара.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Магда Бароўская, Магда Рошчанка** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Кацярына Мучко** з Нараўкі, **Якуб Сяроцкі, Аляксандра Салавянюк, Агнешка Зданоўская, Сярожа Раманюк, Габрыеля Торка, Марыя Савіцкая** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!



*Юрка Буйнюк*

## Снежаньскі захад сонца

*Стары дом на вёсцы маёй
Гадзіннік б'е трэцюю гадзіну
Я чытаю кнігу дзяцінства
На дварэ белы-белы снег
Серабрысты мароз
Хаты вясковых дахаў
Купаюцца ў снежаньскім захадзе сонца
Едкі мароз шчыпле твар
Пад нагамі хрусціць снег
Старая яблыня спіць зімовым сном
На даху хлява блішчаць срэбныя ледзяшы
Якія п'е шэры плот-сусед
У прамянях зімовага сонца
Гараць голыя дрэвы саду
А я шчаслівы бясконца
Нясу бярэмя дроў у хату
Каб летнімі ўспамінамі напаліць у печы
17.12.2013*

## Табе

*Табе
Спяваю песні на гітары кахання
Табе
Калыша мой верш да рання
Табе
Вару каву снядання
Табе
Я верны ўночы*

*Толькі Цябе
Кахаю ўдзень і ўночы
За каралі вуснаў чырвоных
За зоркі вачэй шэрых
За чароўную ўсмешку
На прыгожым твары дня
За шчырае чыстае сэрца
Табе назаўжды маё сэрца і душа
9.01.2014
Беласток*

## Аўтобусам з Беластока ў Малінніках

*Даўно я не быў у роднай хаце
Святочная самота
На беластоцкім аўтавакзале
Залатая манета сонца
На фоне магутнага вужа-цягніка
Хаваецца за гарызонт
Гадзіна пятнаццатая пяцьдзесят пяць
Купляю білет развітання з горадам
Спачываю ў мяккім фатэлі
З акон аўтобуса пачынаю чытаць
Кіно штораз родных краявідаў
Ім далей тым бліжэй сэрцу
Засынаючыя ў пярыне снегу
Падляшскія лясы
Беларускія вёскі
Залатыя купалы цэркваў
Шуміць вецер у вокнах аўтобуса
Змяркае забыты свет
Вітаюся са знаёмай вёскай
З родным тварам маці-хаты
Я шчаслівы
Што бачу
Чую
Родныя пяшчотныя словы
Бацькоў ды сястры
21.12.2013 17:03
Беласток — Малліннікі*

* * *

*Сённяшні свет
Не разумее паэтаў
Не маем часу
Супыніць машыну манетных спраў
Народ глядзіць у штодзённае
Акно аблуды ды фальшу
Захаду сонца праўды
Уваскрашэння вобразаў ночы
Кормімся апошнімі прамянямі даверу
Які праглынае цемра вечара расчаравання
Глядзім у акно зорак
Чорнай славы чалавецтва
Адурманьваемся фальшывым бляскам
Хвілінных успыхванняў
Халодных маланак флешаў
Крывавы захад сонца
Малюе начную эпоху
Шэрага дажджлівага заўтра
29.01.2012*

## Дахаты

*На возе дваццаць першага стагоддзя
Я еду на свята сустрэчы бацькоў
Вязу падарункі радасці сваёй
Якімі падзялюся з роднымі
Пры стале бацькоўскага даверу
На абрусе матчынай спагады
Палажу хлеб дзедавай спадчыны
31.01.2013*

## Добрыя зоркі

*Ноччу ўспамінанняў
На цёмным небе
Гасне чалавечае жыццё
Апошніх добрых успамінаў
У маіх вачах бабулька
Манька Самасюк-Буйнюк
Што благаславіла мяне крыжам на дарогу
Тонька Сэмэнышына
Што малітвай лячыла мае думкі
Бачу добразычлівы пагодлівы
Твар суседа дзядзькі Толіка
Што з Кляшчэль вяртаецца дахаты
Шчыры твар яго жонкі
Маўклівай цёткі Олькі
Што добрым словам мяне вітае
Бачу намоленыя вочы
Цёткі Макрэні
Якая вяртаецца з царквы
Чую вясёлы голас
Дзядзькі Міколы Крупы
Што вітаецца з бацькамі
Сустракаю жыццярадаснага дзядзьку Лёньку
Які імчыць на маторы
На поле даіць кароў
І бачу ясную зорку
Чую хрыплы голас
Дзеда Кірылы
Што вітаецца з маім бацькам
Маёй бабулі Марты Несцярук-Міранчук
Што адплыла спакойным сном
Усе мы калісьці спаткаемся
На цёмным небе зорнай ночы
Перад тронам Бацькі-Усявышняга
Будзем голыя-голыя
Як нованароджаныя дзеці
19.03.2013*

Фота Хрысціны БУЙНЮК



**Юрка Буйнюк** — паэт, бард, карэспандэнт «Нівы». Нарадзіўся ў 1981 г. у вёсцы Маліннікі на Беласточчыне. Дэбютаваў вершамі на старонках «Зоркі» ў красавіку 1994 г. Друкаваўся ў часопісах «Ніва», «Раніца», «Тэрмапілы», «Дзеяслоў», «Калоссе», «Літаратурная газета», «Верасень», «Голас Радзімы». Аўтар паэтычных зборнікаў «Субота ў Малінніках» (2005) і «Самота дажджу» (2009). Самастойна запісаў 2 кампакт-дыскі сваіх песень — «Песні як дзяўчаты» (2011) і «Вогнішча сяброўства і любві» (2013). Жыве і працуе ў Беластоку.

## Дзеці Месяца

*Нашыя словы
Паэма пра каханне
Мае лісты да вясны кветак метафар
Як твае ліпеньскія пісьмы
Мы дзеці поўні Месяца
Зразумелыя думкам сваім
Спаткаліся ў сне
Вясны пра каханне
Размыліся ў сакавіцкім тумане
Непапраўных дарог лёсу
5.03.2013*

## Праваслаўная душа

*Як малітвы пакаяння шчырая сляза
Як святога старца вера чыстая раса
Як багацце хору анёлаў Раю сада
Як бацюшкі споведзь — жыцця парада
Як пакорны гук звону царквы
Як уваскрэсшае Пасхі вясны
Гэта патрэбы сумнага сэрца звон
У святыню малітвы кліча ён
Як прамень сонца Кіеўскай Русі
Як гісторыя пісаная фрэскамі сцяны
Гэта добразычлівы гасцінны Божы Дом
Заўжды на свята сонца кліча Ён
На вяселле добрых верных душ
Прычашчэнне Адзінага цела крыві чаш
Радасці чыстай крыніцы ісціны
Шчырай праўды нашай вясны
Кліча гасцінны Бацька Бог
На царкоўны парог
І Сын Яго Збавіцель Хрыстос
Шчасце нам прынёс
20.10.2012*

# Вышкі і крыху наваколля

**Бывае, што на карце мясцовасць паказана абшырнай, а на справе яна выяўляецца не надта буйной. Гэтакім паказаўся мне Межвін, што ў Вышкаўскай гміне. Па сутнасці — гэта дзве невялікія на выгляд вёскі: Межвін-Малы і Межвін-Дужы. *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* так пісаў быў пра гэтыя мясцовасці: „Mierzwin Mały i Stary, dwie okolice, pow. bielski gub. grodz. gm. Malesze. Folwark Telatyckich 62 dz.; okolica M. Mały 140, M. Stary 115 dziesięcin”. У іншым жа месцы той жа *Слоўнік* пісаў крышку інакш: што гэта Межвінь, *Mały* і *Wielki*. Партал Вышкаўскай гміны падае, што ўжо ў 1528 годзе мясцовасць згадвалася як Seło Mirwino Jakszowiata. Шматлікія шляхцічы з Межвіна ўдзельнічалі ў каралеўскіх элекцыях у XVII і XVIII стагоддзях. У 1921 годзе ў Межвіне-Дужым пражывала 176 асоб, у тым ліку дзве праваслаўныя.**

Чарговая вёска Пежхалы таксама невялікая — некалькі толькі хат, як у прысёлку. Слоўнік: „Pierzchały i P. Górskie, dwie okolice, pow. bielski gub. grodz., gm. Malesze. Okolica Pierzchały 92 dz., P. Górskie z Kożuszkami 81 dz.”. Пра Pierzchały Górskie няма згадкі ні на гмінным партале, ні на карце. Партал затое інфармуе, што ў 1921 годзе пражывала ў Пежхалах 37 душ, у тым ліку дзве праваслаўныя.

Чарговы засценак — Багінскія. Слоўнік: „Bagieński, stare i nowe, dwie wsie w gub. grodz., dawnej ziemi bielskiej”. Гмінны партал: „W pierwszej połowie XV wieku dawne wschodnie Mazowsze oraz Podlasie były zasiedlane przez rycerstwo z Mazowsza (Księstwo Mazowieckie) i Królestwa Polskiego. Wielu rycerzy pochodziło z ziemi ciechanowskiej. W 1440 roku w ziemi łomżyńskiej powstała wieś Bagienice, założona przez rycerzy z ziemi ciechanowskiej herbu Ślepowron. Część tych rycerzy przemieściła się jeszcze dalej na wschód, na Podlasie. W drugiej połowie XV wieku rycerze herbu Ślepowron z Bagienic osiedlili się w parafii Topczewo. Założyli początkowo dwie małe osady. W 1528 roku notowano tutaj dwie małe osady Seło Bahiskich Jakubowiat z pięcioma rodzinami oraz Seło Bahinskich Tomkowiat liczącą trzy rodziny”. У 1921 годзе ў Старых Багінскіх пражывала 38 чалавек, усе палякі і католікі, у Новых Багінскіх у той час пражывалі 43 насельнікі, у тым ліку адзін праваслаўны беларус.

Чарговая мясцовасць гэта толькі дарожны паказальнік Krupice. Слоўнік: „Krupice folwark, pow. bielski gub. grodz. gm. Malesze, Aleks. Wielowiejskiego, 120 dz.”. Партал: „Krupice na pewno nie były wsią drobnoszlachecką, były przez wieki folwarkiem i niewielką osadą zamieszkałą przez chłopów. Folwark ten należał albo do parafii w Wyszkach, albo do możniejszych ziemian z Wyszek”. У міжваенны час у Крупіцах было ўсяго дзве гаспадаркі...


Касцёл у Вышках

Партал Вышкаўскай гміны падае, што Вышкі „powstały już w XV wieku. Ówcześnie ta miejscowość zwała się według jednych źródeł Piotrkowem, według innych Piórkow lub Piórkowo. Nowo przybyli rycerze byli katolikami, nieliczne wsie chłopskie jakie istniały w tych okolicach zamieszkiwali prawosławni Rusini. Polscy rycerze zakładali więc swoje kościoły. Właśnie w dniu 28 sierpnia 1457 roku Wisław z Piórkowa wraz z bratankami ufundowali w Piórkowie parafię katolicką. W pierwszej połowie XVI wieku imię Wisław i podobne nie były już używane przez mieszkańców tej wsi. Jedynym śladem była nazwa wsi”. А ранейшая назва вёскі захавалася ў назве гадоўнай вуліцы: Piórkowska.

Слоўнік, з канца XIX стагоддзя: „Wyszki Kościelne, okolica, pow. bielski, gub. grodzieńska, w 2 okr. policyjnym [brańskim; у тагачасным Бельскім павеце былі чатыры паліцыйныя акругі: Бельская, Браньская, Цеханавецкая і Сямятыцкая — А.В.], gm. Rajsk, o 15 wiorst od Bielska, 6 domów, 35 mieszkańców, 116 dziesięcin (14 łąk i pastwisk, 7 lasu, 3 nieużytków) i 33 dzies. ziemi kościelnej. Posiada kościół parafialny katolicki, pod wezwaniem św. Andrzeja Apostoła, z drzewa wzniesiony w 1457 r. Parafia katol. dekanatu bielskiego, 1 907 wiernych, kaplica w Pulsach. Podczas lustracyi z 1791 r. stał jeszcze ubogi kościół drewniany pierwotny, tytułu Zwiastowania N.M.P. Prawdopodobnie ten sam kościół, dobrze oszalowany wewnątrz i zewnątrz i pomalowany olejno, stoi do dziś dnia. W 1779 r. w drugi dzień Wielkiejnocy gwałtowny pożar zniszczył całą wieś, przyczem ocalał kościół, okolony odwiecznymi drzewami”.

Над уваходам у вышкаўскі касцёл намаляваны тры вялікія даты: 1457, 1905 і 2007. Першая дата, гэта пачатак парафіі, другая — парафіяльны партал: „28 sierpnia 1905 roku, w obecności wielkich rzesz wiernych i bardzo wielu księży, delegat biskupa, prałat Wileńskiej Kapituły Katedralnej, ks. Jan Kurczewski, dokonał uroczystego poświęcenia nowego kościoła i odprawił w nim pierwszą Mszę świętą. W tymże roku konsekracji kościoła wyszkowskiego dokonał biskup wileński Edward Ropp”. Што абазначае трэцяя дата — мне сакрэт, бо пра яе няма нічога ні ў партале Драгічынскай дыяцэзіі, ні ў афіцыйным партале Вышкаўскай парафіі, ні ў гмінным партале. Мяркую, аднак, што апошняя звязана з першай — гэта такое не надта круглае 550-годдзе парафіі, якое ўжо можна было адзначаць урачыста, без адміністрацыйных перапалак. Парафіяльны партал: „Wsie do parafii należące, wszystkie samą szlachtą osiadłe. Ludność parafii była bardzo jednolita statusem społecznym (szlachta), narodowościowo i wyznaniowo. Wyjątek stanowili tylko nieliczni Żydzi. Potwierdza ten stan rzeczy Inwentarz z 1804 roku: «Włościan żadnych nie ma. Zdolnych do sakramentów 819, niezdolnych 264». O parafianach wyszkowskich na ogół mówiono dobrze. Księża podkreślali ich pobożność, przywiązanie do Kościoła, ofiarność na remonty świątyni, miłość do Ojczyzny i opór przeciwko okupantom sowieckim, niemieckim i bezbożnictwu, lansowanemu w latach PRL”.

Сапраўды, у эпоху бязбожніцтва складана было б адзначаць вельмі круглы пяцьсотгадовы юбілей вышкаўскага касцёла. Затое ахвярнасць была патрэбная амаль пастаянна: „Podczas potopu w roku 1657 roku kościół


Помнік ахвярам Бурага ў Шпаках

został obrabowany, a proboszcz ciężko ranny. Z wielkiego pożaru całych niemal Wyszek w 1779 roku, ocalał tylko kościół, spłonęła natomiast plebania, a w niej wszystkie stare dokumenty. W czasie Insurekcji Kościuszkowskiej 1774 roku, kościół został obrabowany przez przechodzące tędy wojska moskiewskie. Podczas pierwszej wojny światowej, w 1915 roku Wyszki znalazły się na linii frontu obu walczących ze sobą armii, rosyjskiej i niemieckiej. Kościół otrzymał 20 dużych ran od pocisków i tysiące małych od odłamków i szrapneli. Kilka granatów rozerwało się w kościele, niszcząc obrazy, feretrony, chorągwie. Posypały się oczywiście wszystkie szyby. Druga wojna światowa okazała się jeszcze okrutniejsza dla wyszkowskiego kościoła. Wycofujące się przed sowietami wojska niemieckie realizowały plan spalonej ziemi. Specjalne oddziały SS założyły miny pod wieże kościoła i wysadziły je 30 lipca 1944 roku. Wieże runęły na nawę kościoła, zniszczyły dach, stropy i zasypały gruzem wnętrze świątyni”. Затое на бязбожнасць у Вышках ахвярнасці няма: будынак тамашняга рэстарана, сімвал былога новага парадку, сімвал грахоўнасці і распусты, гібее цяпер быццам апакаліптычная грэшніца пасля нейкага Страшнага суда. Няма там таксама і выбарчай ахвярнасці на тыя партыі, што пазіцыянуюцца далей ад Касцёла; Вышкі ў гэтым спектры з'яўляюцца агульнапольскім супрацьлеглым полюсам да Чыжоў.

За Вышкамі яшчэ дзве шляхецкія вёсачкі: Сасіны і Шчапаны. Гмінны партал цытуе колішняга мемуарыста Енджэя Кітовіча: „Małej szlachty mieszkania nie różniły się od chłopskich chałup, snopkami częstokroć poszywane. W tym tylko różnica była, iż przed szlacheckim dworkiem musiały być koniecznie wrota wysokie, choć podwórze całe było płotem chruścianym ogrodzone, i druga, że dworek szlachcica miał dwie izby po rogach a sień w środku, gdy przeciwnie u chałupy chłopskiej sień jest z czoła a za nią izba, a w tyle komora”.

Чарговая вёска, Шпакі, была таксама, як падае гмінны партал, zamieszkała przez drobną szlachtę. Партал падае, што вёска была заселена баярамі. Спярша яна знаходзілася ў зусім іншым чым цяпер месцы. Мянавіта была яна адным з прысёлкаў буйнейшай вёскі, nomen omen, Буйнова. Партал: „W latach 1560-1562 przeprowadzono w Bujnowie pomiary włóczne, wymierzono i zarejestrowano grunty tamtej wsi, powiększając znacznie również folwark bujnowski. Władze starostwa i urzędnicy królewscy zadecydowali, że bojarów Szpaków należy przesiedlić w inne miejsce. Wysiedlono ich na północne krańce królewskiej wsi Malesze”.

Пра трагічныя эпізоды з недалёкага мінулага Шпакоў партал згадвае надта агульна: „W rejonie Wyszek dochodziło do potyczek zbrojnego podziemia z oddziałami Ludowego Wojska Polskiego. Miały one miejsce pod Szpakami i Pierzchałami. Władza centralna w pierwszych latach tu nie sięgała. Dominowały oddziały związane z dawnym AK i NOW (NZW), które jednak często odnosiły się do siebie wrogo. Często postrach budziły zbrojne bandy, nie związane politycznie z nikim, które zajmowały się tylko rabunkiem. Do Apokalipsy można porównać ówczesne warunki życia rolników. Brak stabilizacji i poczucia bezpieczeństwa ujemnie wpływał na odbudowę gospodarczą wsi, w której w dzień urzędowała władza ludowa, a w nocy „Leśni”. Obie strony stosowały ostre sankcje za współpracę, nieposłuszeństwo czy domniemaną zdradę. Jedni karali torturami i długoletnim więzieniem, drudzy chłostą lub śmiercią. Często dochodziło do tragicznych pomyłek. Ogólny chaos wykorzystywały wszelkiej maści grupy złodziejskie, które podszywając się pod partyzantów rabowały, nakładały kontrybucje, gwałciły. Odczuły to głównie grupy ludności białoruskiej. Miały one negatywny stosunek do podziemia antykomunistycznego. Wynikało to z częstych napadów i poniżania tej ludności przez siły AK i NZW (Narodowe Zjednoczenie Wojskowe)”. Пра атрад „Бурага” — ні слова...

У пачатку вёскі, з боку Вышкаў, помнік ахвярам злачынства з 2 лютага 1946 года, прысыпаны снегам. На вуліцы перада мною паказваецца старэйшая жанчына. Заводжу з ёю размову на тутэйшай гаворцы, пытаю пра вясковую дэмаграфію. Інфармуе мяне, што шмат хат у вёсцы пустуе... Набліжаемся да ейнага панадворка, на якім завіхаецца яе малодшая, мо трыццацігадовая, сямейніца — яна карыстаецца польскай мовай. Даведваюся, што ў вёсцы пражывае пад пяцьдзесят душ. Дзявяцёра дзяцей вучыцца ў Вышках, сямёра — у звышгімназічных школах, двое дзяцей дашкольнага ўзросту. У вёсцы тры гаспадары займаюцца малочнай вытворчасцю, маюць студзільныя ўмяшчальнікі і статкі па трыццаць-сорак кароў. Сусед таксама трымае пад пяць кароў, але малака ад іх нікуды не здае, корміць ім цялят, якіх пасля прадае.

У канцы Шпакоў, з боку прыхадскіх Малешаў, вывадны крыж з кірылічным надпісам...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Казка пра беларускага рыцара





Справа: Лявон Тарасэвіч, Ружа Фабіяноўская, Славамір Мальхарак і Дар'юш Шада-Бажышкоўскі

Прыгожасць і разнастайнасць сонца ў загуменных палосках, дзікіх лугах паміж Гарадком і Крынкамі захапляе ўжо амаль цэлы свет. Аб тым, як даведаўся ён пра ціхую, далёкую ад еўрапейскіх і сталічных салонаў правінцыю, распавядае дакументальны фільм „Ікона на дарогу”. Рэжысёры Ружа Фабіяноўская і Славамір Мальхарак падарылі сваю „ікону” прафесару Лявону Тарасэвічу. Біяграфічны сюжэт славутага мастака, прынамсі яго пачатак, у нечым напамінае беларускую народную казку. Даўным-даўно, у простых сялян прыйшоў на свет хлопчык, які ўбачыў нябачанае, адчуў неадчутае і паказаў непаказанае. Пачаткова малеча сам здзіўляўся свайму сяброўству з незвычайнымі з'явамі. Аднавяскоўцы безупынна насміхаліся з хлапчыны, які не расставаўся з алоўкам і кніжкай, называлі яго гультаём. На шчасце родным бацькам гэта не перашкаджала. Як веснавая птушка вылецеў ён з бацькоўскага гнязда ў далёкі свет, але кніжку і аловак трымаў заўсёды пры сабе. „У далёкім свеце цікава, прыгожа, — падумаў сабе адважны юнак, — але не так добра як на роднай бацькаўшчыне. Тады чаму ж не паказаць гэта ўсяму вялікаму свету, няхай і ён захапляецца”. Як задумаў, так і зрабіў. Простыя формы і жывыя колеры прадстаўленняў роднага загона прыцягнулі ўвагу інтэлектуалаў Польшчы і замежжа. Іх аўтару падзякавалі, між іншым, Вялікай узнагародай Фонду культуры, выстаўкай у сталічнай галерэі „Захэнта”, у Музеі сучаснага мастацтва, на спецыяльным біенале ў Венецыі.

За бязмежную любоў аддзячыла таксама родная старонка, пасылаючы вернаму сыну вялікага настаўніка і духовага апекуна Сакрата Яновіча. Спалучэнне паміж вялікім светам і роднай хатай ставалася нашмат прасцейшым і больш бяспечным. Юнак мужнеў, адкрыта атаясамліваўся і гнарыўся словам „беларус”, разумна супраціўляючыся ўсім яго павярхоўнасцям. Адзінай зброяй беларускага рыцара было мастацтва, у тым ліку музычнае.

Пра безупынную барацьбу за беларускасць мастак — герой фільма — асабіста гаварыў у час сустрэчы, прымеркаванай да дэманстрацыі кінадакумента „Ікона на дарогу”. Праходзіла яна ў мурах каўказскай сінагогі ў Крынках.

Пабачыць ужывую прафесара Лявона Тарасэвіча захацелі не толькі прадстаўнікі беластоцкай інтэлігенцыі, але таксама і простыя крынчане. Адным з першых прыбыў у той вечар саракагадовы земляроб з Крынак. Пра мерапрыемства даведаўся ён з заявы, вывешанай на дрэве напроцяў крамы. „Гэтага чалавека бачыў я аднойчы па тэлебачанні, у праграме „Пытанне на сняданак”, — прызнаецца крынчанін. — Там распавядаў ён пра гадоўлю курапят. Гляджу, на плакаце той жа самы чалавек, а яшчэ і бясплатны ўваход. Так і надумаўся сюды прыйсці”.

„Чаму прызнання мастацкага таленту больш у вялікім свеце, чым на роднай бацькаўшчыне?” — запытаў Лявона Тарасэвіча вядучы дыскусію Дар'юш Шада-Бажышкоўскі. „Пра ўсё вырашаюць улады, — адказвае мастак, — таму які двор, такое мастацтва. Кожны павінен жыць так, як яму падабаецца. Калі камусьці непатрэбная мая праца, то няма сэнсу прымушаць. Людзі, якія не пярэчаць сваёй штодзённасці, каб пабудаваць новую, гэтага не зразумеюць. Тады хай жывуць, як жывуць”.

На пытанне чаму Крынкі сталі важным эпізодам у яго жыцці Лявон Тарасэвіч адказаў: „Няма ў Крынках маладых людзей, якія маглі б тут працаваць, падымаць тое ўсё да ўзроўню вышэйшай культуры. Гэтым займаўся Сакрат. Словы засталіся запісанымі, да іх можна вярнуцца, гэта не страчана. На сёння нас, дзеячаў, тут няшмат, але я ўпэўнены, што неўзабаве „Віла Сакрата” пачне дыхаць поўнымі лёгкімі”.

Пакуль што прафесар Тарасэвіч абяцаў працягваць сустрэчы ў Крынках, каб паказаць мясцовым як займацца сваёй культурай.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



# www.belfilm.org

У сённяшніх умовах беларускае дакументальнае кіно, таксама як і ўсё грамадства, існуе нібыта ў двух светах. Першаму, афіцыйнаму, дакументальнае кіно асабліва і не патрэбнае. Яно можа выражацца з большага ў нейкіх панегірыках прадстаўнікам улады, асабліва беларускаму правіцелю. Таму нейкай сур'ёзна ўзнятай праблемы там не заўважыш, выключэннем могуць быць прапагандысцкія стужкі.

Існуе ў Беларусі і іншы свет — свет звычайных людзей, дзе пануе палітыка, якая вельмі рэдка бывае справядлівай да іх, дзе процьма праблем, якія не вырашаюцца з году ў год, дзе ёсць парушэнні правоў і палітвязні, дзе ёсць забытыя інваліды і пакрыўджаныя чыноўнікамі людзі. Усё гэта магло б застацца невядомым для неабыякавых людзей яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму. Цяпер жа сітуацыя іншая — дзякуючы інтэрнэту і лёгкай у карыстанні якаснай тэхніцы практычна кожны чалавек можа стаць і сцэнарыстам, і рэжысёрам, і аператарам уласнага фільма. Магчыма, у будучым стварэнне фільмаў стане нечым кшталту фотаздымкаў — як правільна зрабіць кіно будзе распавядацца ў інструкцыі да відэакамеры.

Паколькі пакуль гэтага няма, то кіно, нават самаробнае, застаецца нечым таямнічым — яго могуць ствараць толькі дасведчаныя хоць мінімальна людзі. Адной з праяваў такой з'явы з'яўляецца сайт у інтэрнэце, які мае назву **BelFilm** і месціцца па адрасе **http://belfilm.org**. Гэта сайт аднайменнай міжнароднай асацыяцыі, якая была заснавана ў 2010 годзе ў Вільні беларускімі і літоўскімі грамадзянамі, што працуюць у сферы кіно і тэлебачання. „Наша мэта — знаёміць грамадства з цікавым і нестандартным кіно, адкрываць новыя імёны, засноўваць асяродкі аматараў дакументалістыкі, абмяркоўваць новыя стужкі, арганізоўваць дыскусіі паміж творцамі і гледачамі, ствараць культурны кантэкст”, — распавядаецца на старонцы „Пра нас”. Там жа дададзена, што **BelFilm** асноўныя напрамкі сваёй дзейнасці бачыць у прасоўванні і папулярызацыі жанру дакументальнага кіно, „каб абсяг сучаснай кінадакументалістыкі развіваўся і пашыраўся ва ўсіх яе праявах”.

Своеасаблівым працягам такіх намаганняў можна лічыць старонку „Фільмы”, дзе месцяцца стужкі, знятыя ў розных краінах і ў розныя часы. Іх аб'ядноўвае рэалістычнасць, якая не толькі дае гледачу магчымасць пазнаёміцца з той ці іншай сітуацыяй, але і паказвае як варта здымаць такія фільм. „У некаторых фільмах непасрэдна абмяркоўваецца роля журналістыкі. У іншых закранаюцца праблемы і падзеі, якія недастаткова падрабязна асвятляюцца ў СМІ і хутка знікаюць з першых палос, хоць яны актуальныя ў любы час”, — пішуць відэаствральнікі на данай старонцы.

Таксама на сайце прадстаўлены „прамаўляючыя галовы”. У рубрыцы „Не**Format**” месцяцца відэазапісы інтэрв'ю з рознымі асобамі. Сярод іх — экс-кандыдат у беларускія прэзідэнты Уладзімір Някляеў і кінарэжысёр Юры Хашчавацкі.

Рубрыка „Артыкулы” змяшчае тэксты аб дакументальным кіно ў Беларусі і аб **BelFilm**. А вось „Кіназала” дае магчымасць паглядзець толькі адзін фільм — пра падзеі 2006 года ў Мінску цераз прызму ўдзелу ў „Плошчы Каліноўскага” двух мінскіх хлопцаў і дзяўчыны.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

### Знітаваны лёсам з Вільняй

# 110 гадоў з дня нараджэння Янкі Шутовіча

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнавец Янка Шутовіч нарадзіўся 24 студзеня 1904 г. у вёсцы Шутавічы Ашмянскага павета (цяперашні Смаргонскі раён). З гэтай мясцовасці паходзіў і беларускі каталіцкі святар Віктар Шутовіч, родны дзядзька Янкі Шутовіча. Смаргоншчына дала Беларусі многа выдатных дзеячаў у розных сферах нацыянальнага адраджэння. Напэўна на фармаванне іх свядомасці значны ўплыў рабіла блізкасць нашай культурнай сталіцы — Вільні. Янка Шутовіч таксама навучаўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а потым у 1934 г. скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, атрымаўшы дыплом магістра права.

Шутовіч працаваў карэктарам у беларускай друкарні імя Францішка Скарыны. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, сябрам партыі хрысціянскіх дэмакратаў. У 1935-1939 гг. выдавец і рэдактар часопісаў „Калосьсе”, „Шлях моладзі”, „Студэнцкая думка”. Сам друкавацца пачаў яшчэ ў 1927 г.

У пачатку 1939 г. Шутовіч быў арыштаваны тагачаснымі польскімі ўладамі. Быў зняволены ў Бяроза-Картузскім лагеры. Вызваленне наступіла з прыходам у верасні 1939 г. савецкага войска. Янка Шутовіч зноў вярнуўся ў Вільню. З лютага 1941 г. да лістапада 1944 г. працаваў загадчыкам Беларускага музея ў Вільні. Хаваў ад вывазу экспанаты ў сутарэннях касцёла св. Міхала пад апекай беларускага ксяндза Адама Станкевіча.

Шутовіч быў арыштаваны органамі НКГБ 19 лістапада 1944 г. Рашэннем Асобай нарады прысуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Высланы да Унжлагу (Горкаўская вобласць Расіі), пасля да Пясчанлагу (Карагандзінская вобласць, Казахстан). Вызвалены з савецкага канцлагера толькі 28 жніўня 1954 г. Але яшчэ да красавіка 1956 г. знаходзіўся ў высылцы ў Карагандзе і Сарані Карагандзінскай вобласці.

Але ўсё ж Янка Шутовіч нібы быў знітаваны лёсам з Вільняй. Пасля высылкі ён зноў вярнуўся менавіта сюды. З 1957 г. працаваў пажарнікам і вартаўніком у Віленскім дзяржаўным мастацкім музеі. У гэты музей трапілі многія экспанаты з колішняга Беларускага музея. Урэшце Шутовіч быў рэабілітаваны 25 красавіка 1958 г.

Разам з жонкай, літоўскай паэткай Онай Міцютэ, Янка Шутовіч займаўся перакладамі твораў літоўскіх і беларускіх пісьменнікаў. Адшукаў у архіве рукапіс рамана-хронікі Максіма Гарэцкага „Віленскія камунары”. Сярод неапублікаванай спадчыны застаўся вялікі нарыс пра Міхала Забэйду-Суміцкага. Знайшоў і перахоўваў дзённік Адама Станкевіча, перад смерцю зрабіў некалькі копій і раздаў надзейным людзям.

Архіў Янкі Шутовіча зараз знаходзіцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Руплівец беларускай справы Янка Шутовіч памёр 9 снежня 1974 г. Пахаваны на могілках у Павільнісе. Памяць пра яго ў Беларусі ніяк не ўшанавана, на малой радзіме ў Шутавічах, што побач з Залессем і раённым цэнтрам Смаргоні, ніякіх памятных слядоў таксама няма.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Саўлянам патрэбны радны

У Саўлянах Супрасльскай гміны на працягу 2003-2013 гадоў нічога не змянілася. І солтыс той самы. Раднага ад сваёй вёскі саўляне не маюць. Іх кандыдат не набірае дастатковай колькасці галасоў і адпадае.

Зараз гэтую функцыю выконвае радны з суседняй, большай ад Саўлян, вёскі Каракулі. Жыццё і справы сваёй і суседняй вёскі — па ўсім відаць — раднага не цікавяць. На вясковыя сходы або іншыя мерапрыемствы (вядома, калі яны ёсць, а бываюць рэдка) у Саўляны не прыязджае. Яму дастаткова тое, што ён радны і гэта ўсё! Хто мае тады задбаць пра тое, каб вяскоўцам гэтага далёкага ад гміннага цэнтра сяла жылося лепш і больш прыемна?

Саўляны налічваюць 330 жыхароў. Значыць, вёска не малая. А ў ёй няма ні крамы (будынак крамы прадалі), ні паштовага аддзялення ды нават паштовай скрынкі (а яна тут раней была).

У вёсцы патрэбны тратуар ад скрыжавання вуліц св. Крыжа і св. Марка да пачатку гэтай мясцовасці — хаця б 200 метраў паабапал вуліцы св. Марка. Неабходнае таксама аднаўленне прыстрэшка на аўтобусным прыпынку Беластоцкай гарадской камунікацыі (БГК). Ён вельмі занядбаны, брудны. Лавачку трэба памаляваць.

Прыдаўся б яшчэ адзін курс аўтобуса БГК — найлепш пасярод дня — ад цэнтра Беластока ў Саўляны. Калі чатыры гады таму праходзіла перадвыбарчая кампанія на новага бургамістра Супраслі, кандыдат Радаслаў Дабравольскі (тады ён настаўнічаў у Супраслі) паабяцаў, што такі курс будзе. Саўлянскі солтыс яго вельмі ж расхваляваў. Ужо падчас перадвыбарчага сходу ў мясцовай святліцы кандыдата называў „панам бургамістрам”! На Р. Дабравольскага саўляне сумесна аддалі свае галасы. Як потым аказалася, дрэнна зрабілі.

Радаслаў Дабравольскі выйграў выбары. І яму толькі гэта было важна. На датковы курс гарадскога аўтобуса лініі „13” абяцаных грошай пашкадаваў. А ўлетку — ад чэрвеня да верасня — „абрэзаў” яшчэ пару курсаў. Вось табе на! Такая абыякавасць у разуменні агульналюдскіх патрэб!

Менш заможныя і нематарызаваныя жыхары Саўлян і Каракуляў як хадзілі так і далей ходзяць з Саўлян у беластоцкі жылёвы пасёлак Багноўка да аўтобуса лініі „18” па гравійцы, або — як хто — на „13-тку” на канцавы яе прыпынак па асфальтавай маставой. Калі ісці ў горад па асфальце, дык на абочынах дарогі няма ні тратуара, ні веласіпеднай сцежкі. Яна вузкая і мае тры крутыя павароты. Зімой аўтобусы так і ссоўваліся ў роў. Беластоцкія штодзённыя газеты пра гэта пісалі. Гмінныя ўлады нічога не робяць дзеля таго, каб дарогу выпрастаць. Ёсць на тэрыторыі сялэцтва Саўляны шматлікія іншыя дрэнныя дарогі. Яны не дбаюць пра перыферыйныя вёскі. Таму жыхары гэтых сёлаў хочуць адлучыцца ад Супрасльскай гміны.

Ці ў гэтым годзе бургамістр Супраслі і ўсяе гміны прыедзе ў Саўляны перад новымі выбарамі? Чатыры гады таму ён даваў яшчэ іншыя абяцанні. Свайго слова не стрымаў. Ці яму не будзе сорамна зноў тут паказацца перад людзьмі? Цікава, што зробіць солтыс Саўлян: ці будзе кандыдаваць ізноў? Якую ён зробіць справаздачу са сваёй дзейнасці ў мінулым 2013 годзе? Магчыма пра тое, што чатыры разы збіраў ад аднасяльчан падаткі. Але ж гэта ўсім вядома.

У вёсцы нічога не будавалі, не раманавалі і не аднаўлялі. А шкада. Каб лепш ды выгадней жылося гэта ж неабходна. Астаецца тады жыць надзеяй. Зноў будуць выбары. Яны не за гарамі. Мо новавыбраныя ўлады лепш стануць кіраваць гмінай і будуць лепш прыслухоўвацца да патрэб яе жыхароў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Сыты галоднаму не спагадае

Пасля Каляд, у пятніцу 10 студзеня „забарахліў” страўнік. Некалькі гадзін курчыўся я ад болю. Ды і ціск павысіўся на 191/94. У хаце не было адпаведнага лякарства. Рашыўся выклікаць хуткую дапамогу. У Гайнаўцы дыспетчар распытала аб захворванні, а калі я сказаў аб нястрайнасці і высокім ціску, дык параіла пазваніць да лекара ў шпіталь. Так я і зрабіў. У тэлефоне адазвалася дзяжурная і параіла... прыехаць у Гайнаўку.

— Жыву адзінока, не карыстаюся аўтамабілем, — тлумачу.

— Перадам заяву лекару... Не ад мяне залежыць...

Боль не ўступаў, намагаўся. У галаве шумела. Ад размовы са шпітальным лекарам мінула крыху больш за паўгадзіны. Запаліў я святло на ганку, каб асвятліць панадворак для прыезджых. Прылёг на канапе ў спальні.

Набліжалася 21:40. У пакой зайшла маладзенькая лекарка з шафёрам у службовай уніформе. Распытала яна аб захворванні. Калі я напомніў аб моцным болі страўніка, дык лекар папракнула мяне, што трэба было ўзяць спазмалітычную таблетку, а не выклікаць хуткую дапамогу. Я ў запасе такой таблеткі не меў.

— Такія таблеткі павінны быць у хаце, — кінула лекарка і сказала зрабіць абязбольваючы ўкол і падаць спазмалітычную таблетку.

Пасля працэдуры я прад'явіў праблему з ціскам.

— На дамашнім апараце ўвечары памер паказваў 191/94, — тлумачу. — Праверце, калі ласка...

Лекарка распытала як доўга хварэю на ціск, ці браў нанач лякарствы і якімі карыстаюся.

Абследаванне на правай руцэ не атрымалася. Затым памерала на левай. Ціск быў павышаны — 160/100.

На гэтым візіт закончыўся. Ніякага рэцэпта я не атрымаў.

— Павінна быць лепш, — пачуўся жаночы голас.

— Маглі б пакінуць мне абязбольваючую таблетку?..

— Укол атрымалі. Лякарстваў не пакідаем, — адказала лекарка і затым прыбавіла: — Хочаце, каб мяне дырэктар павесіў?..

Няёмка мне стала ад гэтай размовы. На думку майго „анёлазбавіцеля” я без прычыны выклікаў хуткую дапамогу, бо абавязаны быў узяць спазмалітычную таблетку з дамашняй аптэчкі. Вось, дарэжэнькія, якой логікай карыстаюцца працаўнікі публічнай медслужбы. Пацыент абавязаны забяспечвацца неабходнымі лякарствамі і ў раптоўных выпадках сам лечыцца, а не выклікаць хуткую дапамогу. Вядома, сыты галоднаму не спагадае, — напамінае народная мудрасць. Святая праўда!..

**Уладзімір СІДАРУК**

PS. Абагульняючы вышэйсказанае, хачу аднак падзякаваць персаналу карэты хуткай дапамогі з Гайнаўскага шпіталя за хуткую і эфектыўную дапамогу. Сапраўды, візіт быў абгрунтаваны, адно намёкі і лішняя размова былі непатрэбны.

**У. С.**



# Адгаданка

1. дакумент, які дае права, напрыклад, на пралёт аэрапланам ці на ўваход на канцэрт, 2. біблейская падзея, калі Ной жыў у каўчэзе, 3. частка года найбольш выгадная для нейкай дзейнасці, 4. імя Іванoўскага, беларускага грамадска-асветнага дзеяча (1880-1943), 5. прыгожая духмяная кветка з шыпамі (*Rosa*), 6. давядзе да Кіева, 7. ураджай, 8. удушлівы газ... паміж Камерунам і Лівіяй, 9. арамат, 10. лодка з парусам, 11. беларускі магнацкі род, што меў рэзідэнцыю ў Дубне, 12. „калега” мата і пата.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 52 нумара

Скарына, твор, аўторак, Іўе, Рагнеда, Кебіч, самазвал, урач.

Рашэнне: **Страўнік — вораг чалавека**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 26.01 — 01.02

**(22.03. — 20.04.)** Адкрыешся на новае, пакіруеш сваім жыццём як хочаш і знакаміта дастасуешся да зменлівых сітуацый. Не абяцай больш, чым можаш зрабіць, каб потым не атрымаць абвінавачанняў у падмане і не страціць сваё фінансавае і сацыяльнае становішча. Калі гэта магчыма, перакладзі свае абавязацельствы на чужыя плечы.

**(21.04. — 21.05.)** 28-31.01. — вельмі выгадны час на новыя знаёмствы, наладжванне кантактаў, падпісванне дамоў, вядзенне важных размоў. Існуе небяспека трапіць пад уплыў уласных ілюзій і самападману. Старанна сплануй план дзеянняў на наступны тыдзень, імкнучыся нічога не ўпусціць.

**(22.05. — 22.06.)** Паніжэнне настрою, змагайся з хандрой рухам. Страта шчоткі ці грэбеня ў апошніх днях студзеня або ў першыя лютаўскія дні абяцае публічнае абвяшчэнне таямніц, плёткі і падман. У панядзелак магчымыя ўчынкі, якіх пазней пашкадуеш. Знойдуцца людзі, якія ў аўторак захочуць вывесці цябе з раўнавагі або ўнесці карэктывы ў твае планы. Кантралюй свае паводзіны ў сераду.

**(23.06. — 23.07.)** Не паддавайся ўгаворам, засяродзься на адной справе. Чакаюць цябе важныя неспадзяваныя аплаты, хутка ўсё заплаці, каб не трапіць у сур'ёзную кабалу. Магчымыя сумесныя праекты з былымі канкурэнтамі. Інвестыцыі, уласнасць, нерухомасці, страхаванне і падатковыя скідкі павінны зараз прынесці табе фінансавы прыбытак.

**(24.07. — 23.08.)** 27-31.01. пачнеш працаваць шляхі, адкрыешся на новыя магчымасці. Добрыя дні на далёкія падарожжы. Прыйшоў час рэалізаваць старыя планы. Будуць вырашацца пытанні тваёй кар'еры, праяві ініцыятыву.

**(24.08. — 23.09.)** Зможаш пачаць любую складаную справу. Хоцьці ці штосьці будзе сур'ёзна залежаць ад твайго меркавання і ад тваіх рашэнняў. Скарыстайся складаўшайся перавагай, рабі так як табе выгадна. У панядзелак будзеш поўны сіл і энергіі, і твая гатоўнасць з радасцю ўзяцца за любую справу будзе ўражваць.

Ні ў якім разе не садзіся ў аўторак у чырвоны аўтамабіль.

**(24.09. — 23.10.)** Умацоўвай сувязі ў пары. 28-31.01. пільнуйся, каб нятрапна не ацаніць сітуацыю і няслушна ад чагосьці адмовіцца. Адкрыецца шмат новых магчымасцей, але разгледзь усе шляхі адступлення на выпадак няўдачы. Старанна сплануй усе дзеянні на наступны тыдзень. Не марнуй зашмат часу на забаўкі. Дапамажы камусь у аўторак: пазней яго падзяка ўзбагаціць цябе.

**(24.10. — 22.11.)** Падзеі звязаныя з іншымі могуць унесці ў тваё жыццё страты і блытаніну. На нейкі момант табе здасца, што ўсе планы разбураюцца, але не палохайся. Адмоўся ад публічных выступаў і гучных заяў. Не давярай сябрам ніякіх важных таямніц.

**(23.11. — 22.12.)** 28-31.01. праблемы ў падарожжы і ўласніцтва. Калі ў гэты час адчужыш кагосьці, хутка гэтага не паправіш. Спрабуй змяніць свой лад жыцця. Не займайся справамі іншых. Не варта нават даваць блізкім сябрам і знаёмым парады, бо абвінавацяць цябе ў сваіх промахах і памылках. У панядзелак не садзіся ў апошні вагон.

**(23.12. — 20.01.)** Лепш не выбірайся ў падарожжа. На гэтым тыдні можаш выдаткаваць марна або страціць значную суму грошай. Адмоўся ад сумнеўных здзелак і адкладзі на потым буйныя пакупкі. Трымай язык за зубамі ў панядзелак і нікому не выдавай сваіх сакрэтаў.

**(21.01. — 19.02.)** Пакажуцца відныя вынікі тваёй працы. Магчымыя добрыя весткі ў справе, на якую ты спраціў ужо надзею. Практыкуй правільнае дыханне. Прымі амбітны план ашчаднасцей. Вадалеі з другой дэкады павінны падбаць аб сваё сэрца.

**(20.02. — 21.03.)** Не бойся выдаткаў, зашпіліш непусты кашалёк! Тыдзень вельмі ўдалы для пошукаў новай працы. Варта выдаткаваць трохі часу на тое, каб зрабіць уражанне на сваё асяроддзе: у далейшым гэта акупіцца. У гэты перыяд зможаш абзавесціся заступнікамі, якія потым стануць для цябе вельмі карысной апорай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Мода на Грузію (ч. 4)



Пасля вяртання з Грузіі праблемы, якія ўздымаліся ў польскім тэлебачанні, здаваліся надуманымі і перабольшанымі. Вось у адных навінах наракалі на балота і калюгі. „З-за гэтага, — хваляваліся перад тэлекамерай жыхары правінцыйнага мястэчка, — дзеткі вымушаны хадзіць у школу ў гумавых ботах...”.

Балотны ньюс адразу наклікаў успаміны з базару ў Тбілісі. Там уразілі і захапілі жанчыны, якія кружылі паміж калюгамі ў туфлях на высокіх абцасах. Разам вяртаўся ўспамін пра весялосць грузінак. Іх жыццярадаснасць рэзка кантраставала з заклапочанымі, стомленымі тварамі беластачанак. Здавалася, усе яны выправіліся ў паліклініку, каб там, стоячы ў чарзе, панаракаць перад тэлекамерай на парадкі...

Хацелася адначасова, каб беластоцкі аўтобус нейкім спосабам адляцеў у Грузію, а больш дакладна ў яе жыццярадасную аўру. Успамін Каўказа, быццам бальзам, саграваў душу і вяртаў памяць. У галаве ажывалі карціны падляшскай вёскі сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, прасякнутыя сакавітым гумарам і смакам тушанай дзічыны...

* * *

Тайна жыццярадаснага настрою грузінаў аказалася банальнай. На гэта ў вялікай ступені ўплывае спосаб харчавання. Грузінская яда найсмачнейшая ў свеце, яе аднак трэба смакаваць з толкам і ў правераных месцах.

Першы сняданак падрыхтавала нам уласніца пансіяната, Людміла. Яна пачаставала нас гарачым хачапуры, у якім найбольш экзатычнай падалася назва стравы. Папраўдзе, гэта быў піражок з сырам. Хачапуры пякуць на дзесяткі спосабаў, але кожны рэгіён мае свой варыянт. На поўдні, у Аджарыі, напрыклад, абажаюць хачапуры з яйкам. Страву можна набыць у кожнай краме, кавярні, проста з рук вулічных гандляроў або ў крамах-пякарнях. Апошні спосаб нам запамятаўся і спадабаўся, хоць патрапілі туды зусім не з-за голаду або кулінарнай цікавасці. Адразу пасля прыезду ў Тбілісі ўзнікла праблема. На аўтавакзале працавала толькі адна прыбіральня. Месца інтэнсіўна пахла і напамінала камбінат. Каб дабрацца ўсярэдзіну, трэба было адстаяць у чарзе, перайсці брамку, заплаціць грашакі ды справіцца з фізіялагічнымі патрэбамі на вачах суседзяў. У першым памкненні мы напалохаліся...

Пасля рушылі ў бок цэнтра, каб па дарозе завітаць у нейкую кавярню ці рэстаран.

Наш план рассыпаўся на вачах і на хаду... Мы адышлі тры кіламетры ў напрамку цэнтра, каб застаца з усё больш набрынялай праблемай. Нідзе, як на злосць, не было кавярні з туалетам. У пэўны момант, калі ўжо катастрофа здавалася непазбежнай, мы рашылі зайсці ў паліцыю. Праўда, нас непакоіў і бянтэжыў шкляны будынак пастарунка. З перспектывы тратуара можна было паназіраць як працуюць ахоўнікі парадку. Прыстойныя паліцыянты, як і сам іх будынак, які стаяў у атачэнні аблезлых сталінскіх блёкаў, напаміналі кадры з амерыканскага кінафільма. І менавіта там, амаль ля самага шклянога парога пастарунка, мы дацанілі легенду хачапуры. У паветры панёсся свежы пах пірага, сасмажанага ў араматным алею. Ён далятаў з маленькай крамы, якая адначасова была пякарняй. За парогам прывіталі сімпатычныя дзяўчаты, якія, пачуўшы пра наш клопат, адразу павялі ў сваю прыватную прыбіральню.

— Толькі не спалохайцеся, — асцерагалі па дарозе.

Калі справа ўжо была афармлена, мы прыкмецілі паламаны змыўны бачок ва ўнітазе.

Але ў пякарні ніхто не пераймаўся аварыяй. Побач дзвярэй стаяла вядзерца з вадой ды кожны сам па сабе прыбіраў...

Жэст грузінскіх дзяўчат, дзякуючы складанасцям, аказаўся яшчэ больш высакародным і людскім. Мы пакідалі краму-пякарню, перапоўненыя ўдзячнасцю.



* * *

Яшчэ да прыезду ў Тбілісі нас апярэдзіла легенда пра ўзнікненне горада. Яна падалася свойскай, быццам з падляшскага панадворка. Пачатак горада таксама вызначала цудадзейная, гаючая вада...

Пасля паспяховага фізіялагічнага фіналу, ужо без спеху, мы пацягнуліся на бераг ракі Кура.

Горад з усіх бакоў ахіналі горы, якія ў святле заходзячага сонца прыбралі верасовы колер. Пятнаццаць стагоддзяў таму назад, менавіта на беразе Куры, здарыўся цуд. Кароль Вахтанг Горгасал, які праславіўся на вайне з персамі, прыехаў сюды з дружыннікамі на паляванне. У гэты дзень, быццам дзякуючы чарам, дзесьці пахавалася звярына. У пэўны момант кароль прыкмеціў белага аленя. Як адборны стралок ён адразу пацэліў у звера. Каб пасля перажыць здаровы шок... Паранены алень спачатку ўпаў у раку, каб пасля выскачыць на бераг ракі, цудоўна аздаравеўшы...

Праўда, гістарычныя крыніцы даказваюць, што Тбілісі існаваў даўно да панавання легендарнага ваяра ды сталіцу заснаваў не ён, а яго сын Дачы І ...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**





ISSN 0546-1960